Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ПЛУГ

Месячная навукова-популярная сельска-гаспадарчая часопісь.

№ 7. Ліпень 1925 г. № 7.

## С.-г. праца ў другой палове лета.

Пасьля вясеньняй працы на полі для селяніна надыходзяць тры-чатыры тыдні больш вольнага часу. Некалькі тыдняў ён траціць яшчэ на вывазку гною, заворваньне папару і догляд за бульбай. Але ў гэты час гаспадар мяркуе паправіць дзе трэба страху, а то й што-небудзь збудаваць, бо далей надыходзіць гарачая пара касьбы й жніва.

Тут ужо кожны знаходзіць сабе працу ад ранку й да вечара. Канчаецца касьба сена й канюшыны і надыходзіць жніва. Яшчэ ня кончана праца з жытам, як пасьпявае ячмень, пшаніца, а там і авёс.

Усе гэтыя працы часта так захопліваюць гаспадара, што ён адхіляецца амаль ад усіх іншых работ у гаспадарцы.

А між тым сярод іх ёсьць шмат неабходных і тэрміновых. Яны могуць быць вельмі патрэбнымі і цэннымі (і гаспадар гэта добра ведае), але ўсё-ж такі ён ад іх адмаўляецца, бо ня мае часу, а калі і бярэцца за іх, дык з вялікім спазьненьнем. Я пералічу толькі некаторыя.

*Пасеў пажніўнага лубіну.* У гэтым годзе на складах НКЗ засталося насеньне лубіну ад пасеву вясною. На другі год яно напалову можа страціць сваю ўсходжасьць. Але яго можна скарыстаць і цяпер. Склады значна зьнізілі цану на лубін, а таксама даюць і ў крэдыт. Трэба яшчэ ў гэтым годзе скарыстаць гэта насеньне лубіну, высяваючы яго зараз-жа пасьля жніва жыта. Дзеля гэтага трэба прыбраць снапы на другое месца, поле няглыбока ўзараць і ў той-жа дзень пасеяць лубін. Да восені ён закрасуе і, знача, будзе добрым угнаеньнем пад бульбу ці ярыну [1]).

Ня меншае значэньне мае і пажніўнае лушчэньне. Яно замяняе селяніну добры папар і не патрабуе пуставаньня поля на працягу цэлага году. Уся справа і тут толькі ў нейкім часе гаспадара, каб ён зараз-жа, пажаўшы жыта, няглыбока ўзараў поле і далей даглядаў за ім, як за папарам.

*Рыхтаваньне да засеву азімых.* Ня трэба пазьніцца з мешаньню ці заворваньнем канюшынішча і лубіну, як угнаеньня, калі па іх будзе сеяцца жыта. Тое-ж трэба сказаць і пра заняты папар. Памыляецца той гаспадар, які хоча вельмі добра высьпяліць выку ці бульбу, а пасьля позна сеяць жыта. Такое жыта можа ня ўрунець і з-пад зімы выходзіць дрэнным.

Патрэбна пільная ўвага і ў падрыхтаваньні насеньня азімых да засеваў. Тут трэба ўспомніць і зрабіць усё, як па ачыстцы, так і прат-раве насеньня.

*Мінэральныя ўгнаеньні.* Па шмат якіх акругах сяляне пачынаюць даволі шырока карыстацца мінэральнымі ўгнаеньнямі. Па аднэй толькі



[1]) Гл. „Плуг“ № 5. „Пажніўны і падсяўны лубін“.

Калінінскай акрузе ўжо разышлося каля 10.000 пуд. фосфорытнай мукі. Карыстаюцца ёю і па Менскай акрузе. Гэта ўгнаеньне каштуе 40 кап. пуд і на падзолах дае добрыя вынікі.

У апошні час з прац. проф. Пранішнікава і яго супрацоўнікаў вядома, што фосфорытная мука яшчэ лепш раскладаецца, калі разам з ёю на поле вывезен торф і высеяна некалькі пудоў гіпсу [1]).

У Полацкай акрузе йдзе больш супэрфосфат (80 кап. пуд), а ў Бабруйскай—касьцяная мука.

Трэба цікавіцца, вядома, і іншымі ўгнаеньнямі, а галоўнае знаходзіць гэтыя ўгнаеньні ў сваёй гаспадарцы (кампост, попел, птушыны кал, торф і г. д.).

Нарэшце трэба толькі адно сказаць, што наш селянін напэўна зрабіў-бы шмат чаго новага і культурнага ў сваёй гаспадарцы, калі-б на ўсе пералічаныя працы ён меў-бы больш вольнага часу. А гэта, пэўна, будзе толькі тады, калі большая частка цяжкой і маруднай работы па жніву і касьбе будзе ўзложана „на жалезныя плечы машыны“. Тут машынныя таварыствы могуць шмат чаму дапамагчы.

**Сьц. Ґупяневіч.**



[1]) Найбольш культурным гаспадаром гэта трэба было-б спрабаваць. Гіпс прадаецца на складах комхоза (Менск) па 80-90 кап. пуд.

# ПАЛЯВАЯ ГАСПАДАРКА

## Белыя каласы ў жыце і шкоднікі поля.

У чэрвені месяцы, як пачынае красавацъ жыта, на полі іншы раз зьяўляюцца пустыя белыя каласы. Зьяўленьне гэтых каласоў непакоіць гаспадара. Найчасьцей думаюць, што гэта зьявішча залежыць ад дрэннага надвор'я. Але ня можна вінавіць у гэтым адну пагоду. Ня трэба забывацца, што ёсьць шмат шкоднікаў.

Па большай часьці белыя каласы ў жыце й зьяўляюцца ад шкоднікаў. Іншы раз гэтых шкоднікаў можна знайсьці лёгка. Але бывае і так, што каб даведацца, ад чаго церпіць поле, трэба доўгі час яго вывучаць.

На падставе сваіх нагляданьняў я апішу некаторых знойдзеных шкоднікаў і ў тым ліку тых, якія выклікаюць белыя каласы. Карыстаючыся маімі паказаньнямі, чытачы самі могуць зрабіць гэткія нагляданьні, а апрача таго, папоўняць яшчэ і мае нагляданьні сваімі, што будзе больш цікавым.

*Першае здарэньне.* У гэтым годзе ў нас жыта выкаласілася 21 траўня. Якраз у гэты самы дзень, адгарнуўшы ў бок пласток першага ліста, які прылягае да коласа, я знашоў там маленькага жоўценькага бязногага вусеня „чарвячка“. Такіх „чарвячкоў“ можна было спатыкаць і ў канцы траўня і ў пачатку чэрвеня месяцаў. Гэты чарвячок належыць да жытняе каласавое мухі (Cleigastra flavipes Fal). Жыве ён пад лістам на коласе жыта, а пазьней (у сярэдзіне чэрвеня) я ужо бачыў яго ў значнай колькасьці і на цімафейцы. Ён аб'ядае ў коласе яго часткі (каласкі), ад чаго колас робіцца альбо шмат карацейшым, альбо, што бывае найчасьцей, шчарбатым. Як зьявецца больш-менш сьпелыя шчарбатыя каласы, тады ўжо позна шукаць ад чаго яны зьявіліся, бо „чарвячкі“ йдуць у зямлю і там утвараюць куконачыкі. Такім чынам, нам ужо вядома адна прычына зьяўленьня белых каласоў.

*Другое здарэньне.* З пачатку чэрвеня я пачаў спатыкаць у жыце белыя каласы. Вельмі цікава тое, што ўсё сьцябло і ўсе лісты расьліны былі зялёныя і толькі колас быў белы й пусты. Колас вельмі лёгка адрываўся ад саломіны, калі за яго пацягнуць ўверх. Адгарнуўшы ліст гэтак-жа, як і ў першым разе, мы знаходзім тут чарвячка разы ў 2-2$^{1}/_{2}$ большага, чым першы. Ён і ёсьць прычына зьяўленьня белых каласоў. „Чарвячок“ гэты зялянавата-белы з чорнымі вачыма і чорнымі кропкамі на целе (дыхальцы), тонкі, даўжынёю ў 2 см., з 14 нагамі. Гэта вусень *сьцябловай молі* (Ochsenheimeria taurella Schiff), які перагрызае сьцябло ў верхнім каленцы, чаму колас і робіцца белым, бо да яго не даходзяць сокі. Ніжняя-ж частка расьліны застаецца зялёнай, бо сокі па ёй увесь час праходзяць.

*Трэцяе здарэньне.* У другой палове чэрвеня месяца гэтага году на полі зьявіліся пустыя белыя каласы, якія тарчалі не на зялёных, а на сухіх белых саломінах. Навакол-жа ўсё жыта было зялёным і здаровым. Шукаючы ад чаго яны ссохлі, я агледзеў многа ссохшых расьлін, а некаторыя з іх браў нават з каранямі і зямлёю. Тых расьлін, у якіх было зламанае, наломанае ці сагнутае сьцябло, я ня браў. Разглядаючы гэтыя расьліны мне не ўдалося знайсьці нічога цікавага. Тады я палавіў усё жывое насельніцтва невялікай часткі поля, якое толькі там было. Сярод злоўленых кузурак былі два клопіка: адзін збожжавы клопік (Frigonotylus ruficornis Geoffroy) і другі-вандруючы клопік (Notosira erratika L.). Клапы гэтыя вядомы, як шкоднікі. Дзеля таго я думаю, што цяперашняе зьяўленьне ў нас белых каласаў залежыць не ад кепскага надвор'я, а ад гэтых клапоў, бо надвор'е было аднолькавым для ўсяго жыта, а белыя каласы з мёртвай саломінай тарчаць у розных месцах сярод зялёнага жыта. Паказаныя вышэй клапы вясною выходзяць з яечак і пачынаюць ссаць зімовае збожжа. Расьліна траціць свой колер, спыняе свой рост, а потым зусім ссыхае, і ўсё гэта робіцца ад таго, што клопік высмоктвае з росьліны ўсе сокі, якія патрэбны ёй так, як жывёле кроў. Калі гэтакіх клопікаў зьявіцца многа, то можа згінуць большая частка ўраджаю.

*Чацьвертае здраэньне.* Было ў пачатку ліпеня (5-6-га) 2 гады таму назад, калі на тым-жа самым полі было жыта. Тады сьцябло белага каласа каля зямлі было перагрызена, нібы яго ў гэтым месцы спалілі. Тут-жа можна было ўгледзець і шкодніка, які зрабіў гэта. Ён меў форму падобную да зярна лёнавага семя (ложны кукон). Шкода, аб якой ідзе гутарка, выклікаецца гэсэнскай мухай (Mayetiola destruktor Say), якая сутракаецца, хаця і ў малым ліку па ўсяму СССР. Гэта— вораг небясьпечны і бязьітасны. З гісторыі вядома, што ён прымусіў вывучаць жыцьцё шкоднікаў.

Урэшце дадам, што мэта майго артыкулу у тым, каб зьвярнуць увагу ўсіх чытачоў і грамадзян на тыя небясьпекі, якія крыюцца ў шкодніках. Асабліва вясковыя гаспадары павінны рабіць назіраньні за шкоднікамі і аб усім паведамляць агрономаў і аддзелы абароны расьлін ад шкоднікаў.

Звальваць-жа ўсю бяду на надвор'е нельга. Трэба ўсім, хто як умее і можа, дапамагаць вывучваньню шкоднікаў поля. Толькі ведаючы іх жыцьцё, ведаючы іх слабасьці і асаблівасьці пашырэньня, нам лёгка будзе змагацца з ворагамі.

**Проф. П. Салаўёў.**

---

# Чым замяніць папар.

## (Да пажніўнага лучшэньня).

Перш, чым пачаць гутарку аб пажніўным лучшэньні, гэтым вельмі цікавым спосабе замены ў гаспадарцы папару, скажам некалькі слоў аб папарах наогул.

Пры нашым малазямельлі селянін прымушан выкарыстоўваць кожны кавалак зямлі і скарачаць плошчу папару. У папарнай зьмене ён ужо сее гарох, выку, канюшыну, часткаю бульбу й нават ячмень. Мы бачым, што цяпер сялянскі папар усё больш і больш скарачаецца. Па некаторых акругах ён скараціўся напалову. У некаторых-жа раёнах сяляне амаль цалком перашлі да занятых папараў. Чорны і раньні папар таксама пашыраны мала, хаця карысьць іх сялянству вядома.

Усё гэта зусім зразумела. Гаспадар вельмі зацікаўлен даходнасьцю свайго поля, якая пры папарах (сялянскім і чыстым) меншая, чым пры занятым. Гэту думку сялян можна падкрэсьліць і данымі проф. Даярэнкі *). Ён паказвае даходнасьць поля за тры гады пры розных папарах, вылічваючы з агульнага даходу аплату рабочага часу. Даходнасьць была гэткай:

| Які папар | З 3-х дзес. у год. | | у 1 дзес. у год. | |
|---|---|---|---|---|
| | Руб. | К. | Руб. | К. |
| Пры позным сялянскім папары | 162 | 42 | 54 | 13 |
| „ выкавым “ | 256 | 91 | 85 | 64 |
| „ бульбяным „ | 724 | 22 | 241 | 40 |
| „ чорным (1-е ворыва ўвосень) | 211 | 54 | 70 | 51 |
| „ раньнім (1-е ворыза рана вясн.) | 248 | 18 | 82 | 72 |

Як бачым, самая высокая даходнасьць ад бульбянога папару (241 р. 40 к.), бо ён (бульбяны папар) даваў маладую бульбу, якая была ходкім таварам на рынку. За ім па даходнасьці йдзе выкавы (85 р. 64 к.) і раньні папар. Малая даходнасьць ад поля пры позным сялянскім папару (54 р. 13 к.). У нашых-жа сялян яна, вядома, будзе яшчэ меншай разы ў два.

Адсюль можна зрабіць вынік, што пры занятых папарах поле найбольш даходна.

Аднака, ёсьць выпадкі, калі ня гледзячы на гэта нашы гаспадары зварачваюцца да чыстага раньняга ці чорнага папару (толькі без угнаеньня ўвосень). Рабіць гэта іх прымушае страшэнная засьмечанасьць поля шкоднымі травамі, якія проста забіваюць засевы (пырнік, сьвірэпка, гарчыца, асот, бярозка і г. д.). Тут самае чыстае насеньне становіцца ў адзін год нягодным. Падругое, навукаю і працаю дасьледчых станцый даказана, што калі гаспадару трэба ўздымаць ураджайнасьць сваіх палёў (а пры нашых ураджаях у 45-50 пуд.—гэта грамадзянскі абавязак), то гэтага можна дасягаць толькі пры чыстых папарах ці, лепш кажучы, пры правільным і культурным выпрацоўваньні і догляду за полем на працягу 2½-3 мес. (гэта мы маем пры раньнім папару).

Калі поле пераходзіць у папар, то яно бывае вельмі злёгшымся, бяз дробна-камкаватай пабудовы, ня мае доступу паветра, хутка траціць вільгаць і мае процьму насеньня сарнякоў. Яно кожны год прарастае і глушыць засевы. Тут мае значэньне толькі культурны выраб і догляд за полем. Бяру параўнаўчыя прыклады, якія характарызуюць паляпшэньне дрэннага поля ў час параваньня (культурны выраб і догляд за полем трэба прызнаць толькі за чорным і раньнім папарам).

1. Было паветра ў зямлі па аб'ёму ў %% (аэрацыя).

| Год | Позны сялянскі папар | (Раньні вясеньні) | (Чорны асеньні). |
|---|---|---|---|
| 1916 | 38,5 | 62,0 | 46,0 |
| 1916 | 31,5 | 63,4 | 48,7 |
| 1915 | 31,5 | 58,0 | 37,0 |

*) Гл. „Вестник с.-х-ва“ № 2. 1924 г. Экономическая оценка различных паров.

Бачым, што чорны і раньні папары маюць даволі паветра ў зямлі (48.0—63,4%), каб там маглі жыць і працаваць карысныя нам бактэрыі.

2. Ня меншае значэньне ў жыцьці глебы і тых-жа бактэрый мае і запас вільгаці.

Даныя проф. Даярэнкі за 10 год паказваюць, колькі вільгаці траціць поле пры розных папарах ад высыханьня—

| | |
|---|---|
| Пры чорным папары . . . . | 18,8% |
| „ раньнім . . . . . . | 21,5% |
| „ позным сялянскім . . . . | 56,3% |

Пры позным сялянскім папару поле траціць 56.3% ад усёй вільгаці і гэтак перасыхае, што й пры дажджавым леце на ім адчуваецца сухмень, бо вільгаць гэтага папару зьніжаецца да 5-6% (ад вагі глебы) тады, як пры раньнім і чорным папарах яе застаецца ня менш 12% (норма 12—24%).

3. А ў сувязі з наліччам у зямлі патрэбнае вільгаці і доступу паветра там ідзе канчатковае раскладаньне гною і розных карэньняў. Карысныя нам бактэрыі за гэты час як-бы здабываць салетру, але колькасьць яе бывае рознай.

У працах проф. Даярэнкі паказана, што да часу севу жыта

| | | | |
|---|---|---|---|
| на раньнім папары бывае . . . | 34,9 | пуд. | салетры |
| “ чорным „ „ . . . . | 31,8 | „ | „ |
| “ позным сялянскім папары . . | 7,5 | „ | „ |

як бачым, позны сялянскі папар (някультурны) і тут лічыцца ў чатыры разы горшым.

4. Разам з усім гэтым пры культурным вырабу поля амаль зусім зьністажаюцца шкодныя травы і значна паляпшаецца поле ў сваёй дробна-камкаватай пабудове.

Усе гэтыя вельмі карысныя зьявішчы сталіся на някультурным полі на працягу 2½-3 мес. (ад часу першай воркі папару і да засеву жыта). Папар за гэты час меў дзьве воркі, некалькі пульхненьняў, адно ўгнаеньне і засеў жыта.

Цяпер мы напалову развязалі вельмі цікавую тэму „пажніўнага лучшэньня“.

Даволі нам на нашым злёгшымся, высахшым і заплыўшым полі з-пад жыта (быўшым аржоньні) зараз-жа пасьля жніва правесьці ўсе работы, якія праводзяцца на папары ў працягу 2½-3 мес., каб мець параваньне поля (калі можна так казаць) з усімі яго каштоўнымі адзнакамі.

Практычна-жа такое параваньне поля пачынаецца з *пажніўнага лучшэньня* і робіцца так: зараз-жа пасьля ржанога жніва поле няглыбака (4-6 см.) арэцца. Глыбей араць ня варта, бо аржоньне ў гэты час бывае вельмі перасохшым і глыбокая ворка можа быць не пад сілу.

Зараз-жа пасьля заворваньня і пачынаюць праяўляцца ўсе каштоўныя адзнакі параваньня. Як толькі воркаю будзе ўзьняты верхні пласт поля і прысыпан ржэўнік, поле ня траціць далей свае вільгаці ад высыханьня, а наадварот, амаль цалком затрымоўвае ўсю ваду дажджоў 2-й паловы лета. Поле робіцца ў меру вільготным і мае доступ паветра.

Даволі цёплая пагода, якая яшчэ бывае ў другой палове лета, вельмі спрые раскладу ржэўніка, рознага карэньня і завораных сарнякоў.

А дзякуючы ўсяму гэтаму (вільгаці, доступу паветра і цяплыні) пачнецца бурлівае жыцьцё й праца мікробаў над канчатковым раскладам расьлінных частак глебы і здабываньнем для яе азоту і г. д.

Трэба толькі так ці йнакш далей не даваць полю зарастаць травамі, а пад восень ці раней, калі знойдзецца вольны час, узараць поле на поўную глыбіню. Калі ёсьць гной, і калі яго не вазілі пад жыта, то ў гэтым разе яго добра было-б вывезьці і заараць.

У выніку ўсіх гэтых простых работ наша поле да пачатку халадоў папаруе ($2^1/_2$-3 мес.) і на вясну мы будзем мець найлепшае поле пад бульбу ці цэнную ярыну.

Асаблівая-ж каштоўнасьць гэтага „запозьненага параваньня поля“ ў тым, што тут поле ня пустуе цэлы год, як пры позным сялянскім і чыстых папарах. Розьніца будзе ў тым, што на гэтым „папару“ мы не пасеем жыта (але ці ня ўсё роўна, чым нам плацяць).

Селяніну больш цяжка ўлучыць час, каб правесьці першае ворыва, г. зн. лучшэньне, што й трэба лічыць галоўным тормазам у слабым пашырэньні гэтага культурнага спосабу вырабу поля замест чыстых папараў. Пры лушчэньні машыны можна ўжываць розныя (2-4 корпусны плуг, талеркавую барану, а то й сялянскі плуг).

**Сьц. Тупяневіч.**

# Як сяляне вёскі Прысынак сеюць лубін у аржоньні.

*(Узьдзенскі раён, Менскае акругі).*

Поле вёскі Прысынак пескавое і патрабуе шмат гною для атрыманьня добрага ўраджаю. Нястача гною прымушае тут гаспадара шукаць іншых спосабаў угнаеньня.

Сяляне гэтай вёскі пачалі сеяць лубін, як угнаеньне пад жыта, год 15-20 таму назад. Першае насеньне куплялі ў бліжэйшага землеўласьніка з быўш. маёнтку Прысынак. Пад ярыну-ж да вайны 1914 г. лубіну ніхто ня сеяў.

У часе вайны, калі ўцекачы ехалі з захаду (Горадзеншчыны і інш. месц), то яны вязьлі з сабою і свае веды па сельскай гаспадарцы. Адзін з такіх уцекачоў затрымаўся ў вёсцы Прысынак і рассказаў, як ён на сваёй бацькаўшчыне ўгнойвае поле лубінам пад ярыну. Сяляне гэты вопыт і скарысталі на практыцы.

Селянін Ігнат Давідчык кажа, што ён пасьля жытняга жніва зараз-жа звозіў снапы, ржэўнік заворваў і сеяў лубін. Да восені лубін пачынаў красаваць. Увосень ён частку лубіну заворваў, а другую частку заворваў вясною. Пасьля гэтага сеяў авёс і садзіў бульбу. Як па асеньняму, так і па веснавому заворваньню бульба і авёс расьлі аднолькава і добра, як па гнаі. Праўда, бульба па лубіну была трохі драбнейшай, чым па гнаі, але ўраджай быў ня меншы. Гаспадары Базыль Шыдлоўскі, Адам Козіч і інш. сеюць таксама лубін пасьля жыта, як угнаеньне пад ярыну, і ўсе кажуць, што гэта надта карысна.

Сяляне ў Прысынках кажуць, што яны і ўсе сеялі-б лубін пасьля жыта, як угнаеньне пад ярыну, але адсутнасьць месца для пасьбы скаціны ўстрымлівае іх ад гэтага. Пасьля жніва па ржэўніку доўгі час у іх пасецца скаціна.

Гэтым сялянам трэба сеяць травы на падкорм скаціны, а ў аржоньні пашыраць засеў пажніўнага лубіну.

Праца дасьледчых аграномічных станцый (Новазыбкаўскай, Радамысьлянскай) і практычны вопыт сялян вёскі Прысынак трэба, каб скарысталі й іншыя сяляне. Больш поўны артыкул аб пажніўным лубіне ўжо быў у № 5 „Плуга“.

П. Трус.

# Скарыстаньне птушынага калу.

Амаль кожны гаспадар трымае ў сябе курэй і качак, але рэдка ў гаспадарцы скарыстоўваюць правільна птушыны кал. Звычайна селянін не зварачвае ўвагі на гэта ўгнаеньне; але птушыны кал зьяўляецца ўгнаеньнем самым багатым пажыўнымі матэрыямі. Сьвежы курыны кал мае азоту ў 5 раз больш, фосфору—у 10 і калі ў 8, чым сьвежы кароў'і кал, і ўсё гэта лёгка карыстаюць расьліны. Уплыў птушынага ўгнаеньня бывае вельмі прыметным на ўраджаі ў першы год. Ад гною-жа бывае меншы знак.

Загэтым, кожны гаспадар павінен зьбіраць і скарыстоўваць птушыны кал. У гаспадарцы птушынага калу бывае мала. Сьвядомы гаспадар цэніць яго і кладзе толькі пад лепшыя расьліны гароду й саду.

Лепшым калам лічыцца галубіны, далей ідзе курыны і самы горшы—з-пад качак і гусей. Трэба заўважыць, што сьвежы кал качак і асабліва гусей ядавіты для расьлін. Каб ён ня быў шкодным, яго трэба прасушыць і карыстацца ўжо сухім. Лепш за ўсё, каб перад гнаеньнем кал перагніў у кампостнай кучы. Падрыхтоўваюць кампост гэтак: у аснову кучы кладуць пласт зямлі ў $^1/_3$ мэтра ($^1/_2$ арш.), на які насыпаюць пласт у 4-6 см. калу, далей тонкі пласт сьвежа-гашанай вапны і пласт гною; на гной зноў пласт калу і г. д. Апошні пласт насыпаецца з зямлі. Шырыня кучы павінна быць каля 2 мэтраў (3 арш.), а вышыня $1^1/_3$ мэтра (2 арш.). У працягу лета кучу перамешваюць 1-2 разы. К вясьне кампост бывае гатовы. Курыны й галубіны кал можна скарыстаць без перагніваньня ў кампостных кучах.

Кожны дзень зьбіраць кал з-пад птушак ня варта, але трэба яго так захоўваць, каб ён зараз-жа высыхаў і далей трымаць ужо ў сухім месцы. Калі кал доўгі час застаецца сырым, то ён загніваецца, хутка траціць цэнны азот і становіцца менш пажыўным для расьлін. Дождж не павінен прамываць яго.

Ведаючы гэта, кожны гаспадар, які жадае скарыстаць кал, знойдзе сам і спосаб, як яго захаваць і сабраць.

Сушыць кал можна на сонцы і трымаць у сухіх скрынках, а можна зрабіць і іначай. Вельмі добра захоўваецца галубіны кал, калі галубы жывуць пад жалезным дахам хаты. У сонечны дзень ад гарачыні кал хутка сохне і таму доўгі час захоўваецца і ня псуецца.

Скарыстаць курыны і галубіны кал можна: 1) сухім, як ён ёсьць і 2) разьведзеным у вадзе. Пры скарыстаньні сухога калу з яго робяць перш дробны парашок. Парашок гэты зьмешваюць з зямлёй ці пяском, якога бяруць у тры разы больш чым калу і роўна раскідваюць на вучастку ў колькасьці 50—100 п. на дзесяціну (калу 18—30 пуд.).

Лепш скарыстоўваць кал, як угнаеньне пад кожную расьліну перад пасадкай. Пры гэтым угнаеньне трэба зьмяшаць з зямлёй, якая выкідваецца з той ямкі, у якую будуць садзіць расьліну.

Другі спосаб. На адну расьліну бяруць жменю калу і роўнамерна пасыпаюць навокал расьліны, адступаючы ад сьцябла на 4-8 см. (1-2 вярш.). Угнаеньне закрываецца граблямі зараз-жа.

Але самы лепшы спосаб угнаеньня калам—прыгатаваньне з яго жыжкі. У такім выпадку калу йдзе значна менш, а карысьць ад яго будзе большая. Для прыгатаваньня такой жыжкі бяруць старыя бочкі, якія патрэбна закапаць да паловы ў зямлю, а рэшту да краёў абсыпаць зямлёю, каб яны ня гнілі. Да паловы бочкі насыпаюць кал, затым даліваюць вадой на 8-12 см. ніжэй краю і ўсё гэта старанна перамешваюць. Перамешваць трэба штодзень тры-чатыры разы. Праз 3-4 дні на паверхні жыжкі пачнуць зьяўляцца пузыркі паветра. Праз два тыдні пузыркоў будзе менш. У той час жыжку разводзяць 5-10 часткамі вады, каб не папаліць карэньняў расьліны, і паліваюць ёй кожную расьліну. Пачынаюць паліўку тады, калі ў расьліны зьявіцца 2-3 першыя лісьцікі. На працягу лета паліваюць яшчэ разы 3-4 (праз 10-14 дзён). Пасьля кожнай паліўкі неабходна ўспульхніць глебу каля расьлін, каб даць доступ паветра да карэньняў. Паліваць неабходна ў хмарную пагоду пад вечар і лепш пасьля дажджу. Калі стаіць сухая сонечная пагода, то перад паліўкай трэба змачыць зямлю вадой. Пры паліваньні расьліны растуць вельмі хутка і нават на дрэнным полі можна ўзрасьціць добрую гародніну.

2-3 пуды птушынага гною, якім паліты гародныя расьліны, ужо аплачваюць працу гаспадара.

**І. Пушкароў.**

(Горкі, С.Г-. І-т).

---

# Кампост, як угнаеньне пад жыта.

Кампостам завецца ўгнаеньне з розных адкідаў і непатрэбных у гаспадарцы матар'ялаў пасьля іх перагніваньня.

Матар'ялам для прыгатаваньня кампосту можа быць батвіньне бульбы, сьцябло і карэньні сонечніка, розныя сарнякі і быльлё, якое выпалваюць з гароду, качарэжкі ад капусты, розны сапсаваны корм (згніўшая макуха, бульба) лісьця дрэў, кастрыца, попел, сажа, пыл з дарогі, вапнавае сьмецьце, глей з сажалак, сьмецьце з надворку і вуліц, птушыны кал, дзёран і асабліва торф, а гэтак жа рогі, капыты, косьці, шэрсьць, кавалкі скуры й вантробы скаціны. Усе гэтыя матар'ялы ў гаспадарцы не скарыстоўваюцца.

Кампоснае ўгнаеньне каштуе ў гаспадарцы вельмі танна і па сваёй моцы ня ўступае гною, а іншы раз бывае нават і лепшым за яго. Кампост, гэтак жа як і гной, лічыцца поўным угнаеньнем, бо ён мае ў сабе ўсе тыя пажыўныя сокі, якія патрэбны расьлінам і гэтакжа, як і гной, паляпшае глебу.

Якасьць кампосту, залежыць ад матар'ялу, з якога ён склаўся; ад матар'ялу залежыць і моц кампосту, як угнаеньня.

У той час, як кампост ужо гатоў, усе матар'ялы, з якіх ён зложан, павінны добра перагніць, каб масу кампосту можна было зручна і роўнамерна раскідваць на полі і каб пажыўныя сокі кампосту маглі лёгка брацца расьлінамі.

Кампост робяць або ў кучах на паверхні зямлі, або ў ямах. У кучах яго робяць тады, калі матар'ялы для кампосту вельмі доўга перагніваюць, напрыклад, батвіньне, косьці, сарнякі, дзёран і г. д. Калі

матар'ял можа перагніць хутка, то кампост гатуюць у ямах, часьцей кампост гатуюць у кучах.

Месца для кампостнай кучы выбіраць блізка да кампостнага матар'ялу. Яно павінна быць роўным і ў цяньку. Кампостная куча робіцца найчасьцей даўжынёю у 4 мэтр. й шырынёю каля 2 мэтр. Вышыня робіцца ў залежнасьці ад колькасьці матар'ялу і можа быць 1—$1^1/_2$ м. Часта пад кампостнай кучай робяць падлогу з моцна ўбітай гліны ці выкладаюць дно каменьнем альбо цэглай. Але можна і не рабіць гэтага, зрэзаўшы толькі дзярно і зраўняўшы месца. Матар'ял у кампостнай кучы перакладаюць пластамі зямлі. Для таго, каб матар'ял перагніў хутчэй, ужываюць вапну альбо попел, якімі перасыпаюць пласты кампостнай кучы. Робячы кампост, трэба класьці ў яго й такія матэрыі, якія-б маглі затрымоўваць у ім жыжку і газы. Такімі матэрыямі зьяўляецца: дзярно, торф, лясная падсьцілка й зямля. Астатняй карысна пакрываць на зіму ўсю кучу, на 8—12 см. Каб матэрыі ў кампостнай кучы перагнівалі хутка і роўнамерна, трэба падтрымоўваць у ёй неабходную вільгаць. Дзеля гэтага час-ад-часу трэба палівацць кучу памыямі, змылкамі, лугам, гнаёвай жыжкай, а то й вадою.

Праз 4-6 тыдняў, як толькі куча ўлежыцца, яе трэба перамяшаць. Такое перамешваньне карысна рабіць кожныя 1 $^1/_2$ месяцы.

Добра, каб у гаспадарцы была не адна кампостная куча, а дзьве для таго, каб можна было сартаваць кампостны матар'ял, гледзячы на тое, як хутка ці доўга ён перагнівае.

Кампост лічыцца гатовым тады, калі перагніюць усе матэрыі, з якіх ён зложан і маса яго зробіцца пульхнай. І такі кампост можна вывозіць на поле.

Кампост можна ўжываць пад усялякія расьліны. Ён ніякім расьлінам шкодзіць ня будзе, а толькі павялічыць іх ураджай. Кампост лічыцца вельмі добрым угнаеньнем для сенажацяй, дзе ён значна павялічвае ўраджай травы. Кампосту кладзецца на дзесяціну столькі-ж, як і гною (2400 пуд.). Калі ў кампосьце ёсьць шмат птушынага і чалавечага калу, то тады яго на дзесяціну кладзецца менш (ад 100 да 500 пуд.).

Карысна рабіць кампост з торфу, бо яго ў нас ёсьць шмат. Для гэтага торф трэба нарэзаць з восені і складаць у кучы мэтраў $1^1/_2$ даўжыні й шырыні і каля $1^1/_4$ мэтр. вышынёю. Вельмі карысна дадаваць да торфу, пры закладаньні кучы, вапны альбо невялікую колькасьць гною. Гэтакі кампост можа быць на лета гатовым. У той час, як торф ляжыць у кампостнай кучы, ён траціць розныя шкадлівыя й атрутныя для расьлін матэрыі. Ад зімовага прамярзаньня кампост робіцца пульхным і годным да далейшага раскладаньня. Гэтакага кампосту на дзесяціну кладзецца столькі, колькі і гною.

Урэшце, трэба лічыць, што прыгатаваньне кампосту справа карысная асабліва пры нашай недастачы гною. Ад гэтага мерапрыемства не павінна адмаўляцца ні адна гаспадарка Беларусі. Усе непатрэбныя ў гаспадарцы матар'ялы павінны праходзіць праз кампостныя кучы і даваць цэннае ўгнаеньне.

Гэта адзін з танных спосабаў дастаўляць расьлінам пажыўныя сокі і папаўняць недастачу гною.

**А. Савельеў.**

(Горкі, С.-Г. І-т).

# Мінэральныя ўгнаеньні пад жыта.

Для добрага ўраджаю неабходна, каб у глебе былі ў першую чаргу азот, фосфор і калі. Для разьвіцьця расьлін патрэбны і іншыя матэрыі, але аб іх ня трэба клапаціцца, бо глеба іх мае даволі, ды й патрэба ў іх меншая. У глебе звычайна не хапае фосфору, азоту, калі і вапны. Яны лёгка распускаюцца ў вадзе і штогод уносяцца з поля ўраджаямі зярна і саломы.

Самым пашыраным і ўсім вядомым угнаеньнем зьяўляецца гной, але яго ў большасьці гаспадарак мала. Недахват гною папаўняюць мінэральнымі ўгнаеньнямі. Часьцей усяго мінэральнае ўгнаеньне мае ў сябе якую-небудзь адну матэрыю—азот, фосфор альбо калі. Адсюль і падзяляюць іх на групы. Разгледзім паасобна кожную з іх.

1. *Салетра* мае шмат азоту. Падобна яна да звычайнай солі. Прывозіцца да нас з Амэрыкі (рэспублікі Чылі), затым і завецца чылійскай. Яна лёгка распускаецца ў вадзе. Высяваць салетру можна адначасна з засевам збожжа ў колькасьці 10-15 пуд. на дзесяціну. Пры ўгнаеньні жыта салетру добра высяваць у два тэрміны: адну частку (5-6 пуд.) высяваць разам з засевам зярна ўвосень, а другую частку — вясной па руні. Ад салетры рунь пачынае добра гранiцца і расьці. Добра класьці салетру і пад пшаніцу, ячмень ці бульбу. У апошні час больш ужываецца норвэская салетра. Яе здабываюць з азоту паветра у Норвэгіі на заводах у электрычных пячах. Па якасьці і свайму ўплыву на ўраджай яна ня ўступае чылійскай салетры. Колькасьць і спосабы гнаеньня тыя-ж, што і для чылійскай салетры.

2. Самым танным угнаеньнем, якое дае фосфор, лічыцца *фосфорытная мука.* Здабываюць яе ад размолу фосфорытных каменьняў. Каменьні-фосфорыты ёсьць і ў нас. Яны маюць ад 12 да 30 частак (на 100) фосф. к-ты. Але з фосфорытнай мукі фосфор дрэнна распускаецца ў вадзе пасьля гнаеньня зачым і высяваць муку прыходзіцца рана (1-1½ месяцы да засеву збожжа). На дзесяціну трэба ад 20 да 60 пуд. Горацкая с.-г. дасьледчая станцыя ў 1922 годзе прабавала класьці пад жыта Раслаўскую фосфорытную муку і атрымала зярна з дзесяціны—без угнаеньня . . 83,7 пуд.

40 пуд. фосфорытнай мукі 95,5 „

Жыта прыбавілася на 11 пуд. 32 фунты. Акром таго, уплыў фосфорытнае мукі быў прыметны і на пасеву аўса ў 1923 годзе.

*Супэрфосфат*—парашок шэрага колеру мяккі, пры расьціраньні масьліцца. Робіцца ён на заводах, з мешаніны касьцяной мукі і сернай кіслаты, а таксама і з фосфорытаў. Супэрфосфат мае ад 12 да 24 частак (на 100) фосфорнай кіслаты. Фосфорная кіслата ў гэтым парашку распускаецца лепш, як у фосфорытнай муцэ і больш даступна расьлінам. Супэрфосфат можна высяваць пад зімовыя з восені.

*Томасшлак* дае фосфор; атрымоўваецца ён на заводах пры выплаўцы сталі з чыгуна: яго мелюць і тады ён можа быць скарыстаны, як угнаеньне. На дзесяціну яго можна класьці ад 20 да 30 пуд.

Пры высеву гэты парашок вельмі пыліць, зачым раіцца высяваць яго ў ціхую пагоду, або зьмяшаўшы з зямлёй.

*Касьцяная мука* здабываецца з касьцей жывёлы. Яна мае да 20 частак (па 100) фосфорнай кіслаты і лічыцца добрым угнаеньнем пад зімовыя.

*Калійныя солі* дабываюцца ў Нямеччыне. Розьняцца яны па запасу ў іх калі. З іх найбольш цікавы: каініт (12 проц. калі), карналіт—(9 проц.) і цьвярдая соль (15 проц. калі). Ачышчаныя на заводах гэтыя солі могуць мець ад 20 да 40 проц. калі. Каініту на дзесяціну можна класьці ад 20—30 пуд.; 30 проц. калійнай солі ад 10—20 пуд. Для лёгкай глебы лепш каініт, для цяжкіх—калійная соль. Палажыўшы 10 пуд. 30 проц. калійнае солі пад бульбу, на Горацкай дасьледчай станцыі ў 1922 годзе атрымалі ўраджай—

без угнаеньня . . . . 512 пуд. бульбы з дзес.
10 п. 30 проц. калійнае солі . 764 „ „ „

Ураджай, як бачым, павысіўся амаль не ў паўтара разы.

Апісаныя мінэральныя ўгнаеньні лічацца галоўнымі.

Трэба толькі пажадаць, каб яны былі больш таннымі і з дапамогай коопэрацыйных аб‘яднаньняў пранікалі ў сялянскую гаспадарку.

(Горкі, с.-г. І-т). **А. Савельеў.**

# Мінэральныя ўгнаеньні ў практыцы сялян Менскай акругі.

У часе аб‘езду паўночнай часткі Менскай акругі пры вывучэньні глебы, мне амаль на кожным кроку даводзілася адказваць на розныя пытаньні сялян па ўгнаеньні і вырабу поля. На месцы кожнага прарэзу (ямкі) для агляду глебы і ўсюды, дзе мне даводзілася начаваць, зьбіраліся сяляне і зараз-жа пераходзілі да пытаньняў аб полі.

Першым парадкам яны даводзілі да майго ведама аб усіх няўдобіцах свае зямлі (маючы на ўвазе зьніжэньне с.-г. падатку), а потым пачыналася гутарка і аб тым, як палепшыць такую глебу.

Вызначалася вялікая цікавасьць да мінэральных угнаеньняў—„пяскоў“, якія даволі шырока ўжываюць сяляне на цяжкіх глебах і галоўным чынам, на моцных падзолах.

У першы раз пачуў я аб „пяскох“ у вёсцы Каланіца. Глебы там даволі добрыя, цяжкія суглiністыя. Ня гледзячы на гэта, сяляне ў адзін голас усе казалі, што іх глебы надта благія. Я пытаюся аб угнаеньнях. Пералічваюць—гной, лубін, „пяскі“. Пытаюся больш асьцярожна. Кажуць, што „пясок“ гэты яны купляюць у Менску на складзе па 42 кап. пуд.

Пытаньне высьвятляецца, але ня зусім.

Аднака, „пяскі“ гэтыя ўжываюцца ва многіх месцах (Нялідавічы, Галіца, Кандратовічы, Саўдзеневічы, на хутарох пад Лагойскам). Высяваюць „пяскі“ на поле пад жыта, прыблізна 10-12 пудоў на дзес. Самі сяляне лічаць, што гэта мала, бо трэба болей, але ад гэтага, казалі яны, жыта расьце, як па гнаі, а то й лепш.

У Галіцы сяляне пытаюць, якія ўгнаеньні на іх зямле найлепшыя? Кажу пра супэфосфат, тамасшлак, калійныя солі, салетру. Цікавяцца галоўным чынам супэрфосфатам і тамасшлакам. Салетру лічаць занадта дарагой.

У Саўдзеневічах вяду гутарку аб „пяскох“ з жыдам, які даўно гаспадарыць на зямлі і ўжывае пяскі на ўгнаеньне. Ад яго чую і другую назову „пяскоў“—фосфорыт.

Канчаткова аб „пяскох“ узнаю ў Менску на цэнтральным складзе. Там, на пытаньне сялян даць ім „пяску“ на ўгнаеньне, ім даюць галоў-

ным чынам фосфорытную муку па 42 кап. за пуд і супэфосфат па 80 кап. пуд. Сяляне лепш бяруць фосфорытную муку; яна йдзе надзвычайна добра.

Той факт, што ўгнаеньне з перамолатага ў муку фосфорытнага каменьня дае ў Беларусі такія значныя вынікі, заслугоўвае вялікае увагі.

Практыка нашых сялян кажа аб тым, што ў нас на Беларусі фосфорытнае ўгнаеньне дае добрыя вынікі. Яшчэ больш цікавым становіцца для нас гэта пытаньне і затым, што каменьні-фосфорыты, па досьледу проф. Мажароўскага і проф. Блюдуха, знаходзяцца і ў нас на Беларусі. Патрэбна толькі організацыя здабываньня і размолу іх у муку.

Найлепшыя вынікі фосфорытная мука дае на моцна падзолістых цяжкіх суглінках. Па дасьледу Энгельгардтаўскай дасьледчай станцыі на такіх глебах атрыманы ўраджаі:

| | | | |
|---|---|---|---|
| пасьля 142 воз гною з дзес. | быў ураджай | 10 чэтв. | і 1 мера |
| „ 40 пуд. фосфор. мукі | „ „ | 12 „ | і 2 „ |
| „ 241 воза гною | „ „ | 16 „ | і 2 „ |
| „ 42 пуд. фосфор. мукі | „ „ | 14 „ | і 2 „ |

Фосфорытнае ўгнаеньне павышала ўраджаі некалькі год.

**П. Рагавы.**

# Выраб поля перад севам жыта.

Вельмі каштоўна сваячасова ўзьмяшаць папар пасьля заворваньня гною. Мяшаць ці дваіць трэба якраз тады, калі гной так перапрэе, што салома будзе лёгка рвацца, а кавалачкі гною будуць добра разьдзірацца. Каб гэты момант не прапусьціць, дык трэба кожны дзень хадзіць на поле, даставаць гной і прабаваць, як лёгка рвецца яго салома. Толькі пры мешані ў гэты час гной добра дапамагае вырабу поля: ён робіць зямлю дробна-глыбкаватай, а самыя глыбкі моцнымі. Ляпей узьмяшаць папар на дзень раней, чым прапусьціць гэту пару. Узьмяшаўшы папар хаця-бы на адзін дзень лазьней, ураджай значна зьмяншаецца. Бываюць выпадкі, калі ад гэтага гаспадар не дабірае ўраджаю на 20-25 проц. Рухавы гаспадар напэўна будзе сачыць за пераправаньнем гною і папар узьмяшае ў час.

Наогул-жа, апошнюю ворку папару трэба рабіць за 2-3 тыдні да севу азіміны, ня гледзячы, які выраб папару быў да гэтага часу.

Калі азіміна будзе пасеяна ў сьвежую ральлю кепска выробленага поля, дык увосень пасьля зьяўленьня ў жыта вузла кушчэньня зямля пачынае асядаць, вузёл кушчэньня[1]) агаляецца і куст азіміны стаіць быццым на падпорках (на сваіх карэньнях). З падыходам зімы, калі такой азіміны ня прыкрые хутка сьнег, большая частка яе вымерзьне, бо ў вузлох кушчэньня знаходзяцца вельмі кволыя часткі расьліны. Звычайна яны не павінны агаляцца і паказвацца з зямлі.

Калі пасьля зімы што-небудзь і ўцалее, дык ад першага добрага дажджу ці ветру жыта будзе падаць і ураджай будзе зьніжаны.

Папар заняты (выка з аўсом ці іншыя расьліны) выробляецца крыху інакш. Там за лета вельмі шмат патрацілася полем вільгаці на ўзрост расьлін. Яшчэ больш яе дарэмна патраціцца пасьля скосу мешанкі, калі апазьніцца з воркаю. Каб гэтага ня было, патрэбна

[1]) Вузёл кушчэньня—частка кораню, адкуль выходзяць сьцяблінкі азіміны.

пасьля скосу мешанкі ці другой расьліны дзеля сушкі іх зьвезьці з папару на другое месца, а папар у той-жа дзень мелка ўзараць (на поле „надзець кажух“), каб затрымаць вільгаць.

Як толькі цераз 1-2 тыдні папар заселянее ад сорных траў, трэба яго пацягнуць пружыноўкай. Далей, за тыдні 2-3 да сева азіміны ўзараць на поўную глыбіню.

Апроч таго, трэба сачыць, каб усялякі папар не заставаўся доўгі час прыплесканым даждҗом, бо гэта вельмі стратна дзеля вільгаці.

Ад апошняй воркі да севу жыта часта даводзіцца адзін, а то й два разы пускаць па полю пружыноўку, каб зьністожыць шкодныя расьліны і ўспульхніць прыплесканую глебу.

Барана пасьля мешані і да пасеву жыта ні ў якім разе ня ўжываецца. Ураджай жыта па лубіну ў значнай меры залежыць ад вільгаці поля на працягу ўсяе восені бо яна патрэбна, каб лубін добра пераправаў пасьля заворкі. З заворкаю яго ня трэба пазьніцца. Пасеў азіміны можна рабіць толькі тады, калі зямля добра асела.

Пасеў азіміны пасьля бульбы асаблівага вырабу поля не патрабуе. Трэба толькі ў папары сеяць раньнія сарты бульбы і выкапваць іх загадзя. Інакш на бульбянішчы азіміны лепей ня сеяць.

**Сьц. Туркін.**

---

# Рыхтуйцеся да засеву зімовага збожжа.

Насеньне, якое высявае на свае поле беларускі селянін, мае вельмі нізкую ўсходжасьць. (Усходжасьць жыта толькі 63 проц., а трэба каб яна была ня менш 91 проц.).

Другое, насеньне нашага жыта і пшаніцы, мае ў сабе шмат сьмецьця. (Чыстата жыта 94 проц., а пшаніцы 92 проц., тады як годнымі для засеву лічацца—жыта чыстатою ня менш 97 проц. і пшаніца 99 проц.).

Лепшым насеньнем будзе тое, якое можна атрымаць пасьля доўгага адбору (сэлекцыі). Энгельгардтаўскай с.-г. дасьледчай станцыі (Смаленскай губ.) такое адборнае насеньне жыта і пшаніцы дае ўраджай большы, чым нашы мясцовыя сарты. Ураджайнасьць гэтага сартовага насеньня відаць з табліцы.

| Назва сорту жыта | Сярэдняе за 4 гады | | | Назва сорту пшаніцы | Ураджай зярна ў пудох з дзесяціны |
|---|---|---|---|---|---|
| | Ураджай зярна | | Прырост на 1 дзес. | | |
| | У пудох з дзесяц. | У %% да мясцовых сартоў | | | |
| Мясцовае . . . | 153 | 100 | — | Кастромка . | 123 |
| Іванаўскае . . | 167 | 109,2 | 14 | № 5 ад Кастр. | 133 |
| Кустоўка . . . | 168 | 109,8 | 15 | № 4 „ „ . | 118 |
| Фэнікс . . . . | 169 | 110,4 | 16 | № 2469 Маскоўскай сэлек. станцыі | 115 |
| Альпійскае . . | 173 | 113,1 | 20 | | |
| Пяткускае . . | 178 | 116,3 | 25 | | |

Купіць шмат сартовага (адборнага) насеньня цяпер цяжка; дзеля гэтага трэба здабываць лепшае насеньне ў сваёй гаспадарцы.

Трэба, каб гаспадар выбраў загадзя лепшыя кавалкі жыта ці пшаніцы на насеньне. Малаціць насеннае збожжа трэба цапамі альбо малатарняй. Абіваць снапы, як гэта робяць некаторыя сяляне, ня можна, бо пры гэтакім спосабу хаця і вылятае буйное і сьпелае зярно, але разам з гэтым робіцца адбор зярнят, якія нямоцна трымаюцца ў коласе. Такое жыта ці пшаніца будзе лёгка высыпацца ў полі. Сушыць снапы перад малацьбой у ёўнях, ня раіцца.

Збожжа, якое вызначана для засеву, абавязкова павінна быць адсартавана, а для гэтага ў кожнай савецкай гаспадарцы і пры раёнах ёсьць пункты па ачыстцы насеньня, а гэтак-жа ёсьць і абозы з машынамі—сартоўкамі, якія пераяжджаюць з адной вёскі ў другую.

Насеньне, якое ўжо адсартавалі, абавязкова трэба спрабаваць на ўсходжасьць. Калі яго прарасьце мала, то пры засеве трэба набавіць на няўсходжасьць і сеяць гусьцей. Нормы высеву для чыстага насеньня з добрай усходжасьцю можна раіць такія:

| Назва збожжа | Колькі насеньня на 1 дзес. пры | |
|---|---|---|
| | Раскідным севе | Радковым севе |
| Жыта мясцовага . . | 8 п. 30 ф. | 6 п. 30 ф. |
| „ куставога . . | 7 „ 10 „ | 5 „ 10 „ |
| Пшаніцы зімовай . . | 8 „ „ „ | 6 „ 30 „ |

А калі сеяць насеньнем горшым (акрэсьлена ў пачатку стацьці),то трэба высеў павялічыць.

| Назва збожжа | Колькасьць насен. на 1 дзес. пры | |
|---|---|---|
| | Раскідным севе | Радковым севе |
| Жыта мясцовага . . | 13 п. | 9 п. 10 ф. |
| „ куставога . . | 10 „ 30 ф. | 7 „ 24 „ |
| Пшаніцы зімовай . . | 8 „ „ „ | 6 „ 38 „ |

Радковы засеў больш карысны, чым раськідны; ён патрабуе менш насеньня; сяўнік кладзе зярняты роўнымі радкамі, засыпаючы іх на аднолькавую глыбіню; расьліны ўсходзяць разам і не перашкаджаюць адна другой у час росту.

Час для засеву зімовага збожжа ў Беларусі будзе—для жыта з 28 жніўня да 7 верасьня, а для пшаніцы з 28 жніўня да 12 верасьня. Жыта, калі яго высеяць у гэты тэрмін, да зімы раскусьціцца і выходзіць добрым вясною з-пад сьнегу. Пшаніца-ж, якая кусьціцца толькі вясною, высееная ў гэты тэрмін, мае час да зімы ўзмацаваць свае карэньні і зімою не баіцца марозаў.

Гушчыня засеву залежыць ад якасьці насеньня; насеньне буйное, чыстае і добрай усходжасьці сееца радзей. Пры радковым засеву так-

сама высяваюць процантаў на 20 менш. На добрай глебе, а бо калі засеў раньні—насеньня трэба менш, позны—больш. Такім чынам, высеў залежыць ад якасьці насеньня, поля, тэрміну і способу засеву.

Далейшы рост расьлін залежыць і ад глыбіні прыкрываньня насеньня. Буйное насеньне сеюць глыбей, дробнае—мялчэй. Але глыбіня залежыць і ад глебы.

Насеньне жыта і пшаніцы на пескавым полі трэба прыкрываць на глыбіню 5-6 см., на сярэднім на 3-4 см. і на цяжкіх глебах на $1^1/_2$-2 см.

Лепей насеньне прыкрываецца радковым сяўнікам, але можна яго няглыбака заворваць і плугам. Прыкрываньне насеньня бараною добрых вынікаў не дае.

А. Казлоўскі.

---

# Сэлекцыя, ці адбор насеньня і яе роля ў барацьбе з грыбнымі хваробамі расьлін.

Вялікую шкоду прыносяць нашым расьлінам грыбныя хваробы. Яны выклікаюцца паразітамі—грыбкамі, якія зьяўляюцца на расьлінах і нішчаць іх.

Сяляне напэўна чулі пра некаторыя способы барацьбы з гэтымі хваробамі. Сярод іх назавём бардоскую жыжку, сіні камень і інш. Але ніколі ня трэба адмяжоўвацца толькі гэтым способам барацьбы. Само жыцьцё дае нам больш пэўны спосаб барацьбы з грыбнымі хваробамі. Способ гэты—падбор трывалых і менш хварэючых расьлін.

Гаспадары напэўна прымячалі, што некаторыя сарты расьлін ня так часта хварэюць, як іншыя. Дзеля гэтага мо' трэба адрачыся і ад самых цэнных сартоў, калі яны часта хварэюць і праз гэта даюць нізкі ўраджай. На Беларусі найбольш шкоднымі паразітамі на збожжавых расьлінах зьяўляюцца галаўня (сажа) й іржа.

Многія вучоныя выявілі, што трываласьць расьлін ці нахіласьць іх да хваробы перадаецца насеньнем з году ў год; пры гэтым даведзена, што пры лепшым угнаеньні трываласьць расьлін павялічваецца Перашкаджаюць паразітным хваробам штучныя ўгнаеньні і перш над усе калійныя солі.

Многа гаспадароў, бачачы у сябе з году ў год пашкоджанае збожжа, пачалі выпісаць сабе насеньне з іншых месц. Але, як відаць з нагляданьняў дасьледчых станцый, гэта не дало добрых вынікаў і трывалы сорт якой-небудзь расьліны, перанесены ў мясцовасьць з іншым кліматам й глебай, пакуль прызвычаіцца да іх зусім слабее; а гэта толькі і патрэбна паразітам. Яны накідваюцца на яго ў большай меры, і гэты сорт ужо ня будзе такім, якім ён быў у родным краі.

Найлепшым способам барацьбы з грыбнымі хваробамі будзе адбор на месцы трывалых сартоў насеньня. Як прыклад, прывяду способ адбора насеньня гаспадарамі Амэрыкі. Яны адбіраюць 50—100 ці 1000 непашкоджаных зярнят і сеюць іх. З атрыманах каласоў зноў адбіраюць найлепшыя зярняты і сеюць іх на другі год. (Сеяць іх трэба, напрыклад, у канцы загона, каб можна было наглядаць). Гэтак-жа адбіраюць найлепшыя зярняты і ў трэцім калене. На чацьверты год насеньне сеецца ўжо на паказальным полі. Насеннага матар'ялу зьбіраецца больш і яго патрошку раздаюць суседзям, каб яны таксама выявілі яго трываласьць у залежнасьці ад іншых варункаў.

Гэтакі спосаб можна спрабаваць і ў нашых варунках. Яго можна добра праводзіць пры школах, хатах-чытальнях, пры якіх ёсьць с.-г. гурткі. За гэту практычную грамадзянскую працу можна ўхапіцца, бо яна мае вялікае значэньне і ў тым, каб сяляне зразумелі шкоду грыбных хвароб і ведалі спосабы барацьбы з імі.

Якія-ж вывады можна зрабіць з усяго сказанага аб трыманьні трывалых сартоў с.-г. расьлін і іх адмен?

1) Выбіраць з мясцовых сартоў тыя, якія зьяўляюцца найбольш трывалымі і трываласьць якіх можна павялічыць у далейшым. Трэба займацца толькі адным сортам, каб засьцерагчыся ад крыжаванага запылкаваньня, якое зьніжае добрыя адзнакі сорта, а разам з гэтым і ступень трываласьці. Заграніцай за гэтым вельмі сачаць і разводзяць толькі той сорт, які ў данай мясцовасьці зьяўляецца найлепшым.

2) Самым простым спосабам атрыманьня сталых сартоў зьяўляецца адбор. З расьлін, якія разводзяцца ў нашай мясцовасьці, заўсёды знойдуцца такія, якія будуць найлепшымі. Іх і трэба сеяць адвеяным і адборным насеньнем. Пры належным угнаеньні і добрым догляду праз нейкі час можна атрымаць больш сталы сорт і ад такіх расьлін, якія звычайна хварэюць ад грыбных хвароб.

3) Шырока знаёміць насельніцтва са шкоднасьцю грыбных хвароб і са спосабамі барацьбы з імі.

Дадам некалькі прыкладаў. Год 10 таму назад сяляне Варонежскай губ. Астрагоскага павету далі вучоным вельмі добры і просты спосаб сэлекцыі насеньня. Яны самастойна адбіралі насеньне дзеля атрыманьня сорту сланечніка, які не хварэе на іржу. Заўважыўшы, што некаторыя расьліны пры хваробах застаюцца зялёнымі да самай восені, тады як захварэўшыя чарнеюць і сохнуць, сяляне пачалі адбіраць на насеньне галоўкі толькі зялёных расьлін (трывалых) і, робячы такі адбор некалькі год, атрымалі мясцовы сорт, які зусім не баіцца іржы і якому далі характарную назву „зялёнка“. Але трэба сказаць, што гэта „зялёнка“ можа расьці толькі ў тым месцы, дзе яе вывелі; у іншых-жа мясцовасьцях яна траціць сваю сталасьць. Гэты досьлед Астрагоскіх сялян павінен быць добрым прыкладам, каб кожны з пасьпехам мог атрымаць мясцовы сорт зялёнкі. Бяру яшчэ досьлед, які быў зроблен у Гжацкім павеце, Смаленскай губ. вядомым вучоным А. А. Ячэўскім.

У 1901 годзе на гаросе зьявілася многа іржы. У гэтым годзе вучоны выбраў насеньне толькі з тых расьлін, на якіх хвароба была слаба прыметна. На другі год выбранае насеньне пасеялі на асобнай градцы; расьліны вырасьлі і іржы на іх было вельмі мала. Робячы такі-ж адбор у 1903 і 1904 г. г., вывелі сорт гароху, які зусім не баяўся іржы. Падобныя вынікі атрымаў А. Ячэўскі ў тым-жа месцы і з фасоляй, якая хварэла на іржу. Пачаўшы адбор насеньня ў 1901 годзе, Ячэўскі зьнішчыў ужо іржу да 1903 году. У 1904 годзе ў тым-жа месцы пачалі хварэць плямістасьцю гуркі. І тут пры адбору насеньня расьлін менш пакрытых плямамі ўжо ў 1903 і 1904 г. г. узраслі зусім чыстыя гуркі. На суседніх-жа градах грыбок усё больш пашыраўся.

З вышэй сказанага можна зрабіць вывад аб патрэбе і карысьці сэлекцыі (адбору) насеньня ў барацьбе расьлін са шкоднымі чужаедамі—грыбкамі.

З матар'ялаў паказальных станцый, прац і назіраньняў над грыбнымі хваробамі паасобных дасьледчыкаў можна назваць сарты с.-г.

расьлін, якія зьяўляюцца больш трываламі ў барацьбе з грыбнымі хваробамі.

1. Бульба—Сьняжынка, Белая зорка, Ахілес, Дабэр, Аўрора, Сіні вялікан, і Magnum bonum (супроць гнілі).

2. Капуста—Сабураўка (супроць кілы).

3. Супроць іржы расьліны маюць розную трываласьць, але заўважана, што мясцовыя сарты жыта больш трывалыя, чым прывозныя. Што належыць да пшаніцы, дык прывозная таксама хварэе ў большым ліку выпадкаў.

4. Аўсы ў Меншчыне вельмі часта хварэлі на іржу, асабліва вядомы пад назваю „Вянгэрскі“; у Магілеўшчыне—Швэцкі, Аўстралійскі і Шацілаўскі. Мясцовыя сарты аўса больш трывалыя.

5. Ячмень шасьцірадковы лічыцца ў нас лепшым за двухрадковы.

**М. Шалупенка.**

---

# Калі і як прыбіраць лён.

Лепшымі сьвядомымі гаспадармі і дасьледчымі станцыямі даведзена, што сваячасная прыборка лёну забясьпечвае пасьпех лёнаводзтва. Упусьціць жа час прыборкі—знача адмовіцца ад пэўнага прыбытку.

*Калі-ж трэба прыбіраць лён?* Тэрмін прыборкі лёну часьцей залежыць ад таго, наколькі пасьпеў лён; напрыклад, калі асыпаліся лісьцікі сьцябла (лён ацерабіўся), галоўкі пабурэлі і звоняць, насеньне мае нормальны колер—знача пара пачынаць прыборку. Такі стан пасеву паказвае, што прырост валакна ўжо кончыўся, наліў зярна поўны. Аднак, такімі прыметамі можна кіравацца толькі тады, калі сеюць лён на насеньне (лен-кудраш) і зусім не магчыма, калі сеюць лён на валакно добрай якасьці (лён-даўгунец).

Час прыборкі лёну перш-на-перш залежыць ад мэты засеву. Калі лён сеюць на насеньне, а валакном ня так цікавяцца, то прыбіраць яго можна зусім сьпелым. Кіравацца трэба вышэй азначанымі прыметамі. Калі пажадана атрымаць добрай якасьці валакно, то неабходна зьбіраць лён чым раней, менш цікавячыся насеньнем. Ёсьць яшчэ й сярэдні тэрмін прыборкі лёну, калі хочуць атрымаць найбольшую колькасьць валакна і ўсходжае насеньне. Разгледзім усе гэтыя тэрміны прыборкі лёну. Проф. Шулаў у адной з сваіх кніжак аб часе прыборкі лёну кажа: „Лён адцьвітае—гаспадару пара ўжо думаць аб прыборцы, чым больш ён цікавіцца валакном, тым хутчэй пасьля адцьвітаньня павінна быць прыборка“. Выгляд пасеваў лёну ў гэты час можа быць такі: ніжнія лісткі сьцябла пачынаюць вянуць, але яшчэ не асыпаюцца, дзе-ні-дзе яшчэ можна сустрэць паасобныя спозьненыя цьвяткі. У такой стадыі сьпеласьці лён дае самае тонкае бліскучае валакно. Яно лёгка беліцца, але ня зусім моцнае. Насеньне, сабранае ў гэты час, мала абходзіць і можа быць скарыстана толькі на корм скаціне.

Калі лён зьбіраць зусім сьпелым, то можна атрымаць шмат добрага насеньня, але за тое валакно будзе значна горшае. Яно будзе грубое, жорсткае, дрэнна вылучаецца ад кастры, лёгка рвецца і амаль усё адыходзіць у паклю.

Больш выгодным тэрмінам у Беларусі для прыборкі лёну будзе сярэдні паміж двума апісанымі. Ён дае магчымасьць атрымаць і добрай

якасьці валакно, і частку насеньня годнага для засеву. Тэрмін гэты вызначаецца так: на сьцябле лісточкаў ужо няма; на большай сваёй частцы галоўкі пачынаюць жаўцець, але ня бурэць; насеньне пачынае цьвярдзець, але яшчэ зялёнаватае ў парэзе. Сабраны ў такім стане лён дае найбольшую колькасьць добрай якасьці валакна, якое лёгка вылучаецца ад кастры. Яно моцнае, мяккае, добра беліцца. Насеньне годна для засеву.


Казлы для сушкі лёну.

На Беларусі больш сходна атрымоўваць валакно (цэны—3-6 руб. пуд валакна; 80 к.—2 руб. пуд насеньня), бо і клімат, і глеба больш падыходзяць для засеву лёну-даўгунца на валакно. Загэтым, неабходна прыбіраць лён, калі ён пасьпеў на палову. Звычайна гэты тэрмін бывае на 12-13 тыдню ад пасеву.

Найбольш пашыраным спосабам прыборкі лёну зьяўляецца ручны: лён рвуць невялічкімі жменькамі з карэньнем. Пры гэтым сьцябло лёну не ўкарачваецца ад абрэзваньня, што звычайна бывае пры прыборцы машынамі. Вырваны лён бывае чыстым ад траў. Некаторыя гаспадары тутжа, у жменях і адсьцілаюць лён для прасушкі, а іншыя зьвязваюць па некалькі жмень у снапы. Першы спосаб кепскі тым, што сьцябло ляжыць проста на зямлі і высыханьне йдзе па сьцяблу ня роўна. У часе дажджу сьцяблінкі прыбіваюцца да зямлі і валакно можа стаць горшым. Пры вязаньні снапоў пад пярэвяслам паасобныя сьцяблінкі часам пераправаюць і няроўна высыхаюць. Усё гэта зьніжае якасьць валакна.

Лепшым спосабам трэба лічыць, высушваньне стаячых жмень. Робіцца гэта так: убіваюцца ў зямлю калкі (гл. мал.), прывязваецца да іх жэрдка, пры якой і ставяцца жмені лёну з абодвых бакоў. Калі недалёка ёсьць сенажаць, то можна выбраны лён звозіць і адсьцілаць паасобнымі жменямі.





Рыбленьне лёну.

Скажам яшчэ аб аддзяленьні галовак ад сьцябла. Калі хочуць атрымаць толькі насеньне, то аддзяляньне галовак ад сьцяблін можа быць машыннае (малатарня) і ручное. Зусім іншае, калі хочуць атрымаць добрае валакно. Пры гэтым трэба старацца, каб не папсаваць сьцябла, каб яно ня было ўкарочана абрэзкай галовак і каб пры гэ-

тым ня блыталіся сьцяблінкі. Малацьба цапамі тым кепска, што пры ёй псуецца сьцябло, чаму і адмачваньне ня будзе роўным. Сьцябло менш блытаецца пры аддзяленьні галовак пранікам, але й тут яно таксама псуецца. Лепшым спосабам будзе, так званае, *рыбленьне лёну*. Пры гэтым найменш псуецца сьцябло, таксама яно не ўкарачваецца і ня блытаецца. Для гэтага карыстаюцца жалезным вострым грэбянем (гл. мал.), які прымацоўваюць да тапчана. Рабочы бярэ жменямі лён і, чэшучы яго на грэбяні, абрывае галоўкі ад сьцябла. Нажаль, гэты спосаб у нас мала пашыраны, а на яго варта зьвярнуць увагу.

Горкі, с-г. і—т). **А. Савельеў.**

# Здабываньне вапны ў Шацкім раёне.

Шацкі раён ляжыць у паўднёвай частцы Менскай акругі, або ў заходняй частцы быўш. Чэрвеньскага павету, які мяжуецца з паўночнай часткай Слуцкай акругі.

Праз увесь раён з поўначы на поўдзень праходзіць галіна Вілейска-Нёманскага ўзвышша. Калі рабіць прыблізны схэматычны прарэз у гэтым напрамку (з поўначы на поўдзень) ад вёскі Церабель да Кавалевіч, то мы ўбачым малюнак узгоркаў 199,5—236,8 мэт. над узроўнем мора.




Схематычны прарэз ад в. Церабель да в. Каваляевіч.

Гэтыя асобна раскіданыя ўзгоркі зложаны з грубога камяністага матар'ялу, які прынёс сюды шмат стагодзьдзяў таму назад ледавік. Цяпер усё зарасло невялікім хацяі старым хвойнікам. Калі пракапаць яму на такім узгорку, то мы спатыкаем шмат каменьняў. Сярод каменьняў і знаходзіцца вапняк. Па велічыні каменьні вапняку бываюць ад 7—15 сант. у дыямэтры. Найбольш характэрныя прарэзы ўзгоркаў паказаны на малюнку на стар. 21.

Ва ўзгорках, зложаных з такога матар'ялу, заўсёды можна знайсьці вапняк. Такія узгоркі з вапняком знаходзяцца ў Шацкім раёне ня толькі каля в. Церабелі і Кавалевіч, але таксама каля вёсак Лявонавічы, Задашчэньне, Сяргеевічы, Вэркалы. Ёсьць яны і ў Слуцкай акрузе каля мяст. Грэску.

Праца па здабываньню вапняку ў Шацкім раёне вядзецца такім чынам. На адным з раней апісаных узгоркаў капаюць ямы і час-ад-часу выбіраюць каменьні вапняку. Каменьні тут-жа складаюцца ў кучы. Накапаўшы прыблізна 1000 пуд., вапняк перавозяць да вапельні.

Вапельня—гэта вялікая печ замураваная ў зямлі, дзе перапальваюць вапну. Яна пабудована гэтак. Капаецца вялікая яма, у якой муруецца каменны склеп. Каменьні перакладаюцца глінаю. Тры староны склепу

вапельні павінны быць у зямлі, а праз чацьвертую павінен быць доступ да печы для накладаньня дроў і доступу паветра. У сярэдзіне склепу з каменьня выкладаюцца два падмуркі, на якіх муруецца неба печы. Неба муруецца з вапняковага каменьня, бо іншае не вытрымоўвае




гарачыні й рассыпаецца. Калі ўжо вылажана неба, тады ў дзіркі паміж каменьняў устаўляюць хваёвыя калы ў 6—7 сант., да якіх прывязваюць яшчэ папярэчкі. У гэтыя клеткі засыпаецца вапняк. Вапняк мераюць асьмінамі. Адна асьміна вапняку важыць каля 12-14 пуд. Насыпаўшы поўны склеп вапняку, прыкрываюць усё гэта дробным гальлём (зьверху вапняку) і запальваюць у печы дровы. Першы час полымя й дым праходзяць па дзірках між стаячымі каламі й вапняком. Цераз суткі ці двое калы згараюць і тады агонь праходзіць аж да верху па тых дзірках, дзе былі калы. Першыя дні полымя жоўтавата-чырвонае, а праз 5-6 дзён яно становіцца зялёным ці зялёнавата-сінім. Гэта ўжо сьведчыць аб тым, што вапняк канчае перапальвацца. Счакаўшы яшчэ суткі ці двое, бяруць зьверху камень (вапняк) і ўзьліваюць на яго вады. Калі ён рассыпаецца—знача, вапна гатова; а калі не, дык трэба паліць

яшчэ колькі дзён. Звычайна, пры добрых умовах вапняк перапальваецца ў 7-8 сутак. Але часамі бывае, што калы перагараюць і дзіркі, дзе яны былі, засыпаюцца і полымя ня мае выхаду. Тады час перапалу зацягваецца да 13 дзён. У гэтым разе забіваюць новыя калы і пачынаюць працу чуць не з пачатку. Калі вапняк ужо перапалены (рассыпаецца ад вады), яму некалькі дзён даюць астыць і затым возяць у будынак.




*Падлік працы на і здабываньне вапны.* Накапаць і прывезьці на поўную вапельню вапняку (прыблізна 1000 пуд.) чатыры чалавекі патрацяць тры дні, адзін—12 дзён.

Падрыхтоўка і перапал у сярэднім восем сутак, 24 дні (лічачы па 8 гадз.), бо пры печы знаходзіцца толькі адзін чалавек. Такім чынам, на ўсю працу пойдзе 36 працоўных дзён аднаго чалавека. З 1000 пудоў вапняку выходзіць 300 пуд. вапны. Адзін пуд вапны (у Шацкім і Грэскім раёнах) прадаецца па 40-45 кап.; адкуль 300 пуд.

з аднае печы дадуць 120 руб. Такім чынам, адзін працоўны дзень аплачваецца ў 3 руб. 33 кап. Праўда, тут ня прымаўся пад увагу перавоз з вапельні ў будынак. Але можна сьмела сказаць, што на здабываньні вапны ў сярэднім можна зарабіць 2 руб. у дзень. А той ці іншы заработак у вёсцы ёсьць першая дапамога сельскай гаспадарцы.

Вапна патрэбна ў будаўніцтве і яшчэ больш у сельскай гаспадарцы для барацьбы са шкоднікамі, пабелкі саду, і інш. Аб вапнаваньні-ж глебы ў нас мала хто ведае з сялян і яго ня робяць, а патрэба ў вапнаваньні нашых глеб вялікая, 80—50 пуд. вапны на дзесяціну ў сялян в. Лошыцы павялічваюць ураджай канюшыны ў 2 разы[1]).

Вось чаму нам вельмі патрэбна пашыраць здабываньне вапны і скарыстаньне яе, як угнаеньня.

Я. Лупіновіч.

---

# Трэба загадзя рыхтавацца да выпаўненьня с.-г. падатку.

Выпаўненьне с.-г. падатку патрабуе ад сялянства своечаснай падрыхтоўкі. У нас-жа бывае так, што ўвосень у час выпаўненьня падатку, рынак завален усялякімі продуктамі сельскай гаспадаркі (масла, яйкі, сала, усялякая жывёла і інш.).

Падобная зьява дапамагае зьніжэньню цэн на ўсе продукты, ад чаго сялянства мае страты. Шмат што з пералічаных продуктаў лепш прадаваць ўлетку, калі і цэны больш высокія, і тавару на рынку менш.

Другое, наша сялянства прызвычаілася прадаваць скаціну толькі позна ўвосень. Цэны ў гэты час на скаціну раптоўна зьніжаюцца, бо на рынку зьяўляецца вялікая колькасьць скаціны і яна прадаецца за нішто. Лепш за ўсё прызначаных на продаж бычкоў, яловак і цялушак прадаваць у канцы жніўня ці пачатку верасьня, калі скаціна ўжо пасьпее адкарміцца на пашы.

Наогул-жа, калі наш селянін будзе загадзя рыхтавацца да выпаўненьня с.-г. падатку, а не чакаць да апошняга дня, то і самы падатак ня будзе такім страшным.

К. Іосялевіч.



---

1) Аб вапнаваньні поля гл. часоп. „Плуг“ № 4. Я. Л.

# САДОЎНІЦТВА

## Вачкаваньне пладовых дрэў.

Пачынаючы з 15-25 ліпеня аж да 5-10 жніўня ў Беларусі можна рабіць вачкаваньне вішань, сьліў, яблынь, ігруш, кустоў ружы і г. д. Наша сялянства трымаецца яшчэ старога спосабу—прышчэпліваньня фруктовых дрэў веснавою парой, калі больш сокаў цягнецца ўверх па тканінам драўніны.



Веснавое прышчэпліваньне.

У варунках нашага клімату, а ён спрыяе садоўніцтву, дзедаўскі спосаб прышчэпліваньня ў культурных гаспадарках ужо скасован шмат дзесяткаў год. Гэты веснавы спосаб прышчэпліваньня мае недахваты.

1. У дзень больш 150-200 дзічак ня прышчэпіш.

2. Патрэбны значныя выдаткі на абвязку, абмазку замазкай, падстаўку тычынак і г. д.

3. У першы год узрост паростка (зразка) вельмі дрэнны.

4. Кароны дарослых дрэў (8-15 год) у месцы прышчэпліваньня надламываюцца.

Гэтых недахватаў ня мае вачкаваньне. Вачкаваньне прыпасавана да той пары, калі луб дзічкі перапоўнен сокам, які йдзе ад лісьця ў галінкі, штамб і карэньні. Тады сакавіты луб вельмі добра адстае і вачкаваньне лёгка прымаецца. Спачатку адстае луб у вішань, сьліў, ігруш, яблынь, зачым і вачкаваньне трэба рабіць у гэтым парадку. Другое, дзічкі сібіркі, кітайкі павінны раней вачкавацца, чым нашы дзічкі-паляўкі.

Перад вачкаваньнем выразаюць сёлетнія паросткі тых парод, якія нам патрэбны. У гэты час паростку будзе ня больш $2^1/_2$ месяцаў, але пад ліставымі хвасткамі ўжо хаваюцца пучкі (вочкі); яны лепш вызначаны ў сярэдняй частцы паростка і зусім слаба ў аснове й зьверху.

Вось чаму ў канцы чэрвеня зялёныя вяршынкі галінак, ад каторых мы жадаем узяць зразкі (паросткі), сашчыпліваюцца. Тады пучкі (вочкі) да часу вачкаваньня добра сформуюцца. Паросткі зрэз-



Зрэзанае вочка.

ваюць загадзя за дзень, альбо раніцай і ўстаўляюць у драўлянае вядро з вадой. Лісьця на зразках зрэзваюць, пакідаючы толькі хвасткі, бо без хвастка не магчыма будзе трымаць вочка. Зразкі, добра ўложаныя ў сыры мох, можна перасылаць у працягу 5-8 дзён.


Папярэчны і падоўжны надрэз на дзічку.


Надрэзваньне.

Для пасьпеху вачкаваньня патрэбна.

1. Мець востры, як брытва, спэцыяльна вачкавальны нож з косткай. Ножык павінен быць вельмі чыстым, каб не прыставаў пыл і нават не хапацца за клінок.

2. Дзічкі павінны быць не старэй 2-3 год з вельмі мяккай карой у шыйцы.

3. Зразкі трэба ўзяць ужо з пладаносячых здаровых дрэў, найлепшых сталых сартоў (15-30 год).

4. Выбіраць сухі (бяз дажджу) дзень.

Спачатку вырэзваюць вочка, захапліваючы вельмі малую частку драўніны, а ў косткавых (вішні, сьлівы) зразаюць вочка толькі з лубам. Потым блізка шыйкі, ня вышэй 2-3 сант. ад зямлі, робяць папярэчны і падоўжны надрэз. Кара раздаецца і пры помачы костачкі вочка лёгка заходзіць у шчыліну. Устаўленае вочка абвязваецца туга мачалам (абмазкі ня трэба).

Добры садавод за дзень можа завачкаваць да 800 дзічак. За ім чуць пасьпяваюць 2-3 вязальшчыцы. Праз 12-15 дзён ужо можна бачыць і пасьпех вачкаваньня. Калі хвасток ліста лёгка абрываецца, значыць вочка прынялося. І наадварот, калі вочка ня прымецца, то яно можа быць выцягнута разам з хвастком (калі зьняць мачалу).

Да восені трэба сачыць за тым, каб аслабіць завязаную мачалу, якая можа ўрэзацца ў кару. Прышчэпленае вочка ў нашых варунках добра перазімоўвае і ў красавіку наступнага году дзічкі аглядаюцца. Мачала зусім здымаецца і вядзецца


Дзічка зрэзана на шып пасьля прышчэпліваньня.

зрэзка на шып, гэта знача, што ўся каронка дзічкі зрэзваецца, а пакідаюць вышэй вочка пянёк на 10-12 сант. (2½-3 вярш.). Тады ў траўні месяцы сокі пойдуць у вочка і мы да восені будзем мець галінку да 1 мэтра вышынёю.

Процант няпрыняўшыхся вочак бывае ад 5-8 у той час, калі ад прышчэпліваньня вясною бывае да 20-30 проц.

Урадавыя, коопэрацыйныя і прыватныя школкі Нямеччыны пад контролем зямельных устаноў мусяць прадаваць пладовыя дрэвы толькі завачкаваныя. Такога контролю трэба чакаць і ад нашых земорганаў.

Нашым садаводам-сялянам трэба памятаць, што на выстаўках нават за лепшыя прышчэпы, але прышчэпленыя не вачкаваньнем, прэміі выдавацца ня будуць.

**М. Бурштэйн.**

(Горацкая дасьледчая станцыя).

# Аб штучным раеньні пчол.



Штучнае раеньне пчол мае вялікае значэньне дзеля тых пчаляроў, якія хочуць павялічыць сваю пасеку. Ёсьць некалькі спосабаў штучнага раеньня, але ня ўсе яны ўжываюцца. Сярод іх, як паказалі нагляданьні вучэбнай пасекі Гарэцкага с.-г. Інстытуту, лепшым можна лічыць адзін, які мы і апішам.

Гэты спосаб, як і большасьць другіх, грунтуецца на тым, што пчолы прывыкаюць да таго месца, дзе стаіць іх вулей. Значыцца, калі ў гарачы дзень аднесьці іх вулей у старану мэтраў на 30-40 і далей, то пчолы, варочаючыся з лёту, ня знойдуць ужо свайго вульля на старым месцы.

Растлумачым на прыкладзе той спосаб, які мы правяралі некалькі год і можам раіць. Напрыклад, мы маем на пасецы дзьве моцныя

сям‘і, адна жыве ў рамовым вульлі № 1, а другая ў вульлі № 2. Дзеля таго, каб атрымаць з іх добрую трэцюю сям‘ю, трэба зрабіць так: у гарачы дзень, калі пчолы на лёце, мы паднясем к вульлю № 1 пусты рамовы вулей (адзначым яго № 3). Адчынім вулей № 1, вымем з яго амаль усе рамкі з дзеткай, але бяз пчол, якіх абтрасаем назад у вулей № 1; у вульлі заставім адну-дзьве рамкі з дзеткай. Узятыя рамкі пераносім у вулей № 3. У вулей-жа № 1 на месца ўзятых рамак паставім штучную вашчыну ці рамкі з сушшу; вульлі № 1 і № 3 закрываем. Вулей № 1 застаўляем на старым месцы й больш яго не чапаем. Вулей-жа № 3, у які мы перанесьлі рамкі з дзеткай і ў якім пчол пакуль няма, мы аднясем і паставім на месца вульля № 2, а вулей № 2 аднясем на 30-40 мэтраў на новае месца. Тады ўсе лётныя пчолы з вульля № 2, вяртаючыся з лёту, ня знойдзуць свайго вульля на старым месцы, але заместа яго знойдуць нанова пастаўлены тут вулей № 3.

Пчолы прывыкаюць да свайго месца, але старога свайго вульля знайсьці ня могуць, то ім нічога не застаецца, як увайсьці ў новы вулей № 3. Там пчолы знойдуць соты з дзеткай і яечкамі, але ня знойдуць маткі. Першыя суткі пчолы будуць непакоіцца, але потым хутка пачнуць выводзіць маладую матку і заложаць матачнікі. Праз 12-15 дзён у іх будзе маладая матка, з якой яны й пачнуць новае жыцьцё.

Перавага апісанага способу знаходзіцца ў тым, што ўсе тры сям‘і будуць моцнымі. (Галоўнае правіла пчаляра кажа: „Май толькі моцныя сем‘і на сваёй пасецы“). Сям‘я № 1 застанецца даволі моцнай, таму што мы ўзялі ад яе толькі рамкі з чарвой, усіх-жа пчол і матку заставілі ў сваім вульлі. Гэта сям‘я будзе адчуваць сябе на палажэньні рою і возьмецца рашуча за працу, і вывад маладой пчалы. Сям‘я № 2 страціць усю лётную пчалу; застанецца толькі маладая пчала й матка, але ў яе вульлі застануцца ўсе соты з дзеткай, якая будзе выходзіць у бліжэйшыя дні і хутка папоўніць страчаную лётную пчалу. Новая сям‘я № 3 будзе таксама не малая; яна будзе мець поўны запас сотаў з дзеткай і лётную пчалу.

Як паказаў вопыт вучэбнай пасекі Горацкага С.-Г. Інстытуту, усе тры сям‘і застаюцца дужымі.

Скажам яшчэ, як вывесьці добрую матку.

У вульлі № 3, дзе пчолы застануцца бяз маткі, будуць заложаны імі матачнікі. Такіх матачнікаў моцная сям‘я заложыць штук 6-10. Ня з кожнага такога матачніка будуць добрыя маткі. Гэта залежыць ад таго, што адны матачнікі будуць заложаны на чарвячкох, а другія на яечках. Лепшымі маткамі будуць тыя, якія заложаны на яечках. Пазнаць гэта лёгка. Тая матка, якая заложана на чарвячку, будзе закрыта праз 3-4 дні, а заложаная ня яечку не раней 5 дзён, бо чарвячок расьце ня менш 5 дзён.

Значыцца, на шосты дзень пасьля раеньня трэба абгледзіць вулей № 3 і вырэзаць усе матачнікі, якія ўжо закрыты, пакінуўшы толькі адкрытыя.

Асаблівую ўвагу ўсіх пчаляроў зьвяртаем на правіла, што штучнае раеньне можна рабіць толькі тады, калі сем‘і ўмацаваліся і калі на пасецы ўжо лятаюць трутні.

**М. Найдзёнаў.**

(Горкі, с.-г. І—т).

# ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ

## Як гадаваць жарабят.

У гаспадарцы патрэбен дужы і вытрывалы конь. Але часьцей бачым у гаспадарках малых і слабых коняй. Гаспадары лічаць, што набыць і ўзгадаваць добрае жарабя абойдзецца вельмі дорага для гаспадаркі. Але гэта ня так.

Каб з нашых простых сялянскіх коняй мець цэнную рабочую жывёліну, трэба павялічыць яе рост і правільна гадаваць яе змалку. Павялічэньне росту можна дасягнуць прылівам крыві патомству ад добрых і рослых жарабкоў і падборам лепшага племя (кабыл і жарабкоў) з мясцовых коняй дзеля атрыманьня ад іх прыплоду. Але лепшыя гаспадарскія адзнакі коняй, як сіла, здароўе, вытрываласьць і шпаркасьць залежаць напалову ад догляду й кармленьня жарабят. Сьляды дрэннага ўзгадаваньня жывёлы застаюцца на ёй на ўсё жыцьцё.

Гадоўлю жарабяці трэба пачаць рана. За два месяцы да родаў, жарэбную кабылу ня можна браць у цяжкую працу (ворка, возка цяжараў і інш.). Пры кармленьні трэба даваць чым менш сена. У апошнія дні перад жарабеньнем трэба паменшыць дачу ўсялякіх кармоў.

У першыя 1-2 месяцы маладое жарабя не патрабуе іншага корму, апрача малака маткі. Клопат гаспадара ў гэты час павінен складацца з таго, каб у кабылы было даволі добрага малака. Добра даваць ёй бабовае сена (выкавае, канюшыннае), высеўкі, буракі, моркву і корняплоды. Многа аўса даваць ня трэба, бо малако можа шкодзіць жарабяці. Надта малочную кабылу неабходна здаіваць. Жарабя ўвесь час жыцьця неабходна старанна захоўваць ад цягі паветра, вільгаці і холаду. У часе працы жарабя лепш ня трымаць каля маткі, а падпускаць для ссаньня ў першыя тыдні разоў 4-5 у суткі, а далей 2-3 разы.

2-х месячнаму, а бывае і маладзейшаму жарабяці неабходна даваць ужо падкорм.

Пакуль жарабя яшчэ пад маткаю, яму даволі даваць $^1/_2$-1 кіло аўса ў дзень і патроху бабовага сена ці травы, якую яно само можа скубсьці на выгане (ў 2-3 месяцы).

Адсаджваць жарабя ад маткі лепш, калі яму ўжо 5-6 месяцаў. К гэтаму часу яно ўжо моцнае і можна яму даваць розны падкорм. Добрым кормам для яго цяпер зьяўляецца: авёс у колькасьці ад 1-1$^1/_2$ кіло ў дзень, каля 2 кіло морквы й ўволю сена бабовых расьлін. Калі ў гаспадарцы не стае аўса, то яго можна замяніць высеўкамі ці мукою і абсыпаць імі сечку з сена. Але лепш у такім узросту жарабя пасьвіць і зранку даваць аўса. На пашы жарабя апроч добрага корму (травы), мае сьвятло, свежае паветра і можа бегаць.

Час адсадкі жарабят звычайна супадае з пачаткам пераходу жывёл ў хлеў. Цяпер апроч добрага корму гаспадар павінен глядзець і за

чыстатой памяшканьня жарабяці. Будынак павінен быць сьветлым чыстым і з сьвежым паветрам. Кожны дзень пры добрай пагодзе жарабя выпускаюць пагуляць. Дзеля гэтага каля стайні павінен быць дворык, куды і выпускаюць жарабят.

У гаспадарцы для работ часьцей карыстаюцца коньмі, чым жарабкамі. Адсюль вынікае пытаньне, калі лягчаць жарабка. Трэба сказаць, што лягчаньне затрымоўвае разьвіцьцё організму і чым раней яно будзе зроблена, тым уплыў яго будзе большы.

Лягчаць дарослых коняй вельмі рызыкоўна, асабліва, калі опэрацыю робіць нясьвядомы чалавек-канавал. Лепш лягчаць жарабкоў у 2-3-х годнім узросту і вясною, калі рана хутчэй зажывае.

Прывучаць к працы каня трэба паступова. У два гады жарабя трэба толькі прывучаць да лёгкай працы; у 3 гады можна прывучаць да рэгулярнай лёгкай працы, і толькі ў 4 гады наш мясцовы конь можа быць годным да ўсялякай працы ў гаспадарцы.

Горкі, с.-г. І-т. **В. Сьвірышчэўскі.**

---

# ВЭТЭРЫНАРЫЯ.

## Што такое дэзынфэкцыя, дзеля чаго і як яна робіцца.

Кожная жывёла, хворая на заразьлівую хваробу, небясьпечна ня толькі таму, што носіць заразу сама ў сабе і лёгка перадае яе іншай жывёле ці чалавеку, але небясьпека ад яе павялічваецца галоўным чынам ад таго, што зараза моцна ўядаецца навокал хворай,—у гной, у падлогу, у сьцены і ў розныя рэчы, якія толькі мелі якую-кольвечы датычнасьць да гэтай хворай. Дзякуючы гэтаму зараза, як вядома, можа пашырацца нават і праз доўгі час яшчэ пасьля сьмерці альбо пасьля таго, як жывёла папраўіцца.

Вось, каб ня даць далейшаму пашырэньню заразы і павінна рабіцца дэзынфэкцыя (або абеззаражваньне) усюды, дзе толькі акажацца якая-небудзь заразьлівая хвароба.

Дзякуючы дэзынфэкцыі зараза альбо адразу і канчаткова забіваецца, альба затрымліваецца яе разьвіцьцё. Разам з тым, кожная дэзынфэкцыя павінна заўсёды быць поўнаю, ёй павінны падлягаць, як хлявы, сьцены, жалабы, гной, падлога, так і ўсе паасобныя рэчы, якія знаходзіліся ў адным з хвораю жывёлаю памяшчэньні.

Робіцца дэзынфэкцыя, як вядома, з дапамогаю так званых дэзынфэкцыйных сродкаў. Але паміж усімі дэзынфэкцыйнымі сродкамі ніводнага няма, якое-б аднолькова добра нішчыла заразу: адны сродкі лепш зьнішчаюць адну заразу, другія — другую. Таксама не заўсёды больш моцны раствор найпэўней забівае заразу. Шмат якія сродкі ў слабейшых растворах далёка лепш нішчаць заразу. Вось чаму, робячы дэзынфэкцыю, трэба ведаць, які % таго ці іншага сродку патрэбна ўзяць. Навукаю й практыкаю дасьледавана, што растворы наступных сродкаў не павінны брацца мацнейшыя: крэаліну ня вышэй 5 проц., карбоўкі—4-5 проц., хлорку—5 проц., вапны—20 проц., сулемы—1 ч. на 1000 ч. вады і г. д.

Наогул, рабіць дэзынфэкцыю заражанага месца, рэчаў, а таксама і закопваць падлу *трэба сьпяшацца*. Лепш усяго выконваць гэта ў

першы-ж дзень, асабліва ўлетку, пакуль яшчэ мікробы заразы не абярнуліся ў так зв. зароднікі, якіх нішчыць шмат ужо цяжэй. Гэта добра відаць з такое таблічкі:

| Водны раствор | Зараза (мікробы) карбунку | | Зароднікі заразы карбунку |
|---|---|---|---|
| | Затрымліваецца ўзрост | Забіваецца адразу | |
| Сулемы . | 1:500000 | 1:30000 | 1:1000 (праз 2 гадз.) |
| Крэаліну . | 1:15000 | 1:100 | 3:100 (праз 2 дні) |
| Карбоўкі . | 1:1000 | 1:100 | 5:100 (праз 12 дзён) |

Карбунак, *насацізма* і *сухоты*—гэтыя тры заразьлівыя хваробы асабліва вымагаюць сьпяшацца рабіць дэзынфэкцыю, ужываць пры гэтым наймацнейшыя сродкі і праводзіць дэзынфэкцыю найбольш старанна.

Дзеля таго, што на вёсцы трудна дастаць шмат сродкаў для дэзынфэкцыі, мы падаём найбольш простыя і лягчэйшыя спосабы дэзынфэкцыі. У больш цяжкіх-жа выпадках радзім зьвяртацца да вэтэрынара за дапамогаю.

## Дэзынфэкцыя хлявоў.

1) Адразу пачынаюць з *праветрываньня* хлеву, дзеля чаго ў ім рашчыняюць насьцяж дзьверы і вокны. Адначасна выкідаюць з хлеву подсьцілку, гной і корм.

2) Сьцены, жалабы і інш. драўляныя часткі ў сярэдзіне мыюць шчоткамі моцным гарачым лугам і абскрабаюць іх ад накарэўшае гразі і гною. Пасьля гэтага абмываюць сьцены, жалабы і драбіны растворам *карбоўкі альбо крэаліну* 400 гр. (1 фунт) на 1 вядро вады; дзеля гэтага робяць расчын у вядры і памялом альбо венікам апрыскваюць увесь хлеў у сярэдзіне.

3) Пасьля таго, як будзе зроблена ўжо дэзынфэкцыя падлогі (глядзі ніжэй), вокны і дзьверы шчыльна зачыняюць, затыкаюць усе дзіркі і шчыльны ў сьценах і, вывеўшы з хлеву ўсю жывёлу, паляць у ім *серку*—400 гр. (1 фунт) серкі на 1 куб. сажань прастора хлеву ў якой-небудзь мэталёвай пасудзіне альбо на вялікай скварадзе. Пад гэткую мэталёвую пасудзіну падстаўляюць балею з вадою альбо падкладаюць залезныя лісты, каб забясьпечыцца ад пажару, і тады сыплюць серку на гарачыя вугальлі і зачыняюць дзьверы. У такім духу хлеў пакідаюць зачыненым. Дні праз два дзьверы й вокны рашчыняюць, праветрываюць хлеў і пасьля таго ўжо ставяць у ім здаровую жывёлу.

Перад тым, як ставіць жывёлу назад у хлеў, сьцены, столь, перагародкі, драбіны і інш. беляць гэткай мешанінай: бяруць нягашанае вапны 2 кіло, крэаліны альбо дзёгцю сасновага 200 гр., вады—1 вядро. Спачатку вапну гасяць, альбо бяруць ужо сьвежа-гашаную вапну, потым мяшаюць усё разам у вядры і беляць.

## Дэзынфэкцыя зямлянае падлогі.

1. Пасьля таго, як гной і подсьцілку вывезуць з хлеву, зразаюць у хлеве зямлю глыбінёю см. на 8 і закопваюць яе ў яму, а зьверху зямлю зьліваюць растворам крэаліну (1 ф. на вядро вады).

2. Перакапваюць зямлю ў глыбіню см. на 16, выварочваючы зямлю з глыбіні наверх.

3. Зноў заліваюць перавернутую зямлю такім самым растворам крэаліну (400 гр. на вядро вады).

4. Прывозяць пяску і рассыпаюць яго паверсе грубінёю 8-10 см.

Драўляную жа падлогу дэзынфэкцыруюць, як і сьцены, пасьля чаго паліваюць яе растворам вапны (гл. вышэй).

## Дэзынфэкцыя гною і падсьцілкі.

Дзеля таго, што гной мае вялікую вартасьць для гарпадаркі, неабходна кожны раз запытацца ў вэтэрынара, ці можна яго скарыстаць для поля і сьцерагчыся самому, каб не заразіць глебу на доўгія гады гноем з-пад хворае жывёлы, асабліва пасьля хворай на карбунак.

Найлепш было-б—гэта спаліць увесь гной з-пад хворай жывёлы, але калі гэтага нельга зрабіць, то неабходна спаліць яго хоць зьверху, а рэшту гною зваліць у вадну кучу ў такім месцы, дзе жывёла ня ходзіць, каб гной сам перагрэў, альбо, нарэшце, зарыць яго ў яму.

Калі-ж такі гной прыдзецца заворваць, то перад гэтым увесь гной старанна раструшваюць па полю, каб яго добра праняло сонцам, якое мае здольнасьць ачышчаць усё сваімі праменьнямі ад заразы.

## Дэзынфэкцыя паасобных рэчаў.

1. Вёдры, міскі, шчоткі, скрэблы, торбы, гунькі, папругі і іншае альбо выварваюць у моцным гарачым лузе, альбо вымываюць растворам крэаліну 400 гр. (1 ф.) на вядро вады.

2. Вупраж, вуздэчкі, хамуты вышмароўваюць чыстым дзёгцем, а перад шмараваньнем дзёгцем абкурваюць серкаю, калі баяцца папсуць іх абмываньнем.

3. Мэталёвыя рэчы таксама добра і хутка ачышчаюцца праз вагонь.

4. Магілы абліваюць чорнаю карбоўкаю, растворам дзёгцю, каб не садзіліся на іх мухі і ня лезла скаціна. Яму для магілы рыюць ня менш 2 мэтр. (3 арш.) Укінуўшы труп у яму, засыпаюць яго перш нягашанаю вапнаю і паліваюць па ёй вадою, альбо кідаюць на труп салому, паленцы, шчэпкі і, абліўшы карасінаю, абпальваюць яго.

5. Бялізну, ручнікі і інш. палатняныя рэчы, забруджаныя кроўю, калам і інш., спачатку цэлую гадзіну гатуюць у лузе, а потым звычайна мыюць.

Нарэшце трэба адзначыць, што „дэзынфэкцыя“ робіцца ня толькі знадворку і навокал хворай, але і ў яе самой, у сярэдзіне. Дзеля гэтага хворай даюцца ў сярэдзіну ўсялякія лякарствы, а таксама робяцца розныя прышчэпкі і, так званыя, „уколы“.

Ів. Серада.

# КООПЭРАЦЫЯ

## Аб коопэрацыйным скарыстаньні машын.

Коопэрацыйнае карыстаньне машынамі справа ня новая. Яшчэ за доўгі час да вайны ў губ. Тульскай, Разанскай і суседніх з імі былі таварыствы, якія куплялі конныя малатарні, а на паўночным Каўказе было ня мала таварыстваў, якія куплялі ня толькі конныя, але і паравыя малатарні.

Асабліва хутка пашыраліся гэтакія таварыствы ў Прыбалтыцкіх крёх, дзякуючы большай заможнасьці сялянства і досыць высокай тэхніцы сельскай гаспадаркі; напрыклад, у Ліфляндзкай губ. машынных таварыстваў было ў 1910 годзе—10; у 1911 г.—31; у 1912 г.—70 і ў 1913—116. У сярэднім на 1 таварыства прыпадала 16 сяброў, з агульнай сумай паявых складак 1300 руб. і сяброўскіх складак ад 25 да 100 руб.

Коопэрацыйнае карыстаньне машынамі ў параўнаньні з карыстаньнем паасобнымі гаспадарамі больш сходнае. Яно дазваляе купляць тыя машыны, праца якіх не аплачваецца ў дробных гаспадарках (напрыклад, жатка-снопавязалка, трыер і інш); на машыне працуюць большы час, чаму адлічэньні на яе выплату і проц. на капітал будуць прыпадаць у меншай часьці на адну дзесяціну выробленай зямлі або на адзін пуд продукцыі; і яшчэ, могуць быць скарыстаны машыны, якія патрабуюць большага ліку рабочых рук і коняй, (напрыклад, малатарня, жатка-снопавязка).

Пры організацыі коопэрацыйных таварыстваў па куплі машын трэба добра ведаць, якія машыны ў першую чаргу патрэбна мець таварыству.

Гэта пытаньне разьвязваецца ня так лёгка і ў кожным асобным выпадку па іншаму, але ўсе-ж можна лічыць, што ў першую чаргу трэба рабіць тыя машыны і прылады, якія маюць вельмі малы тэрмін ужываньня (лугавыя бароны і плугі, сяўнікі) альбо тыя машыны, праца з якімі ня мае характару пільнасьці (трыеры, машыны па апрацоўцы валакна, часткаю малатарні).

Другое пытаньне, якое паўстае пры організаціі таварыства, гэта— ці організаваць таварыства для скарыстаньня толькі асобных машын (напр., купляюць малатырню разам 3-4 гаспадары) ці організаваць большое таварыства для карыстаньня цэлым наборам машын і прылад.

Практыка паказвае, што ў добрых умовах з пасьпехам працуюць як тыя, так і другія таварыствы.

У мясцовасьцях, дзе машыны пашыраны мала, лепш організоўваць вялікія таварыствы дзеля супольнага карыстаньня наборамі машын і прылад. У мясцовасьцях-жа, дзе машына не зьяўляецца дзівам, больш будуць пашырацца дробныя таварыствы дзеля супольнага карыстаньня толькі асобнымі машынамі.

Напраўду гаспадару, які мае арфу ці малатарню, няма ніякай патрэбы ўваходзіць у таварыства, у якім ёсьць гэтыя машыны, але ён з ахвотаю запісаўся-бы ў таварыства, каб там мог карыстацца, напрыклад, жаткаю, касілкаю, якіх у яго няма; у гэткім выпадку лёгка аб'яднаць у таварыства некалькі гаспадароў, якія маюць малатарні і хочуць карыстацца машынамі для прыборкі збожжа з поля.

Пры вылічэньні колькасьці машын і прылад на таварыства трэба прагледзіць гэту табліцу.

| Назва прылад і машын. | У адзін дзень зробіць | Лік рабочых дзён у гаду | Гадавая праца (вытворчасьць) |
|---|---|---|---|
| Лугавы плуг . . . . . | 1/2 дзес. | 20 | 10 дзесяцін |
| Бароны і культыватары . | 3 „ | 30 | 90 „ |
| Раскідны збож. сяўнік . | 8 „ | 20 | 160 „ |
| Сяўнік для севу траў . . | 3 „ | 6 | 18 „ |
| Радковы сяўнік (на 9-11 радкоў) . . . . . . | 4 „ | 12 | 48 „ |
| Касілка, жатка і жаткаснопавязка . . . . . | 3 „ | 10 | 30 „ |
| Малатарня 2-х конная . | 20 коп. | 70 | 1400 коп. |
| Малатарня 4-х конная . | 50 „ | 70 | 3500 „ |
| Арфа . . . . . . . . | 300 пуд. | 150 | 45000 пуд. |
| Сартоўка . . . . . . | 500 „ | 150 | 75000 „ |
| Трыер . . . . . . . | 80 „ | 150 | 12000 „ |

Ведаючы агульную плошчу зямлі, якая знаходзіцца ў карыстаньні сяброў таварыства, будзе ня цяжка па гэтай табліцы вылічыць патрэбны лік машын і прылад дзеля работы ўсяго колектыву *).

**Проф. Ю. А. Вэйс.**



*) Пытаньні коопэрацыйнага карыстаньня машынамі добра высьветлены ў брашурах (цаною 18-20 кап.) О. Д. Чыжыкава „Машынные товарищества" і Ф. Холмогорского „Товарищества по закупке сельско-хозяйственных машын".

# ЗЕМЛЕУСТРОЙСТВО

## Разделы крестьянских хозяйств.

Серьезным препятствием для развития сельского хозяйства является чрезмерное его измельчание, получающееся в результате семейно-имущественных разделов крестьянских дворов. Чем мельче хозяйство, тем меньше его общий доход на одну рабочую силу, тем больше приходится едоков, построек, живого и мертвого инвентаря на десятину удобной земли. Слишком мелкое хозяйство не может дать достаточных средств для существования семьи среднего состава и в то же время держит всех членов двора вместе, не давая им побуждений найти себе другие занятия.

Вызывается это чрезмерное измельчание в капиталистических странах, главным образом, разделом хозяйства между наследниками после смерти владельца.

У нас законы о наследстве не применимы к крестьянскому хозяйству в виду того, что земля составляет собственность государства, а остальное имущество, служащее для ведения сельского хозяйства, принадлежит всему составу двора, а не домохозяину. После смерти последнего не открывается поэтому никакого наследства и оставшиеся члены двора продолжают пользоваться всем своим хозяйством.

Измельчание хозяйства происходит у нас благодаря семейно-имущественным разделам двора, вызываемым, как создающейся иногда невозможностью совместной жизни, так и желанием отдельных членов двора завесть самостоятельное хозяйство при увеличении состава их семьи.

Количество разделов крестьянских хозяйств всегда зависело также от той или иной налоговой и земельной политики. Известно, что замена в 1718 г. подворной подати подушною дала резкое увеличение количества разделов крупных дворов. Установление в настоящее время нормы трудового землепользования несомненно вызывает разделы.

Из прошедших в 1924 г. через все земельные комиссии БССР 21.000 дел третья часть приходится на разделы трудовых хозяйств, а ведь не меньше произведено населением добровольных разделов, как зарегистрированных в райисполкомах, так и не оформленных.

Законодатель всегда и везде принимал различные меры против измельчания крестьянских хозяйств.

В Германии давно уже действует закон, по которому мелкое хозяйство после смерти владельца переходит к одному из его наследников, остальные же получают с хозяйства этого выплаты.

В настоящее время семейно-имущественные разделы дворов в БССР регулируются новым земельным кодексом, циркуляром Наркомзема за № 17, установившим нормы трудового землепользования,

и постановлением Совнаркома о приостановке разделов крестьянских хозяйств.

По земельному кодексу сущность раздела двора заключается в образовании из него двух или нескольких самостоятельных хозяйств. Этим раздел отличается от имущественного выдела, когда из состава двора выходит его член, который не основывает нового земледельческого хозяйства, а переходит к другим занятиям и получает с прежнего двора лишь выплату за общее имущество и вложенный в хозяйство труд.

Подлежит разделу, как все целиком имущество общего пользования, так и означенное имущество без земли.

Раздел трудового земледельческого хозяйства допустим только при условии возможности образования из него двух или нескольких самостоятельных жизненных хозяйств. Поэтому, если члены двора, оставляющие его, не думают заниматься сельским хозяйством, а уходят, например, в город на заработки или службу, они не могут требовать раздела ни земли, ни остального общего имущества, служащего для ведения сельского хозяйства.

Требовать раздела в натуре этого последнего имущества без земли они могут, если заводят хозяйство на земле, получаемой в пользование от земельных органов, или ранее добровольно полученной из того же двора.

В случае же вступления в другой двор, напр., по браку или приему, выходящий из состава двора его член не может требовать раздела ни земли, ни остального общего имущества.

Обычно, он в этих случаях получает добровольный выдел части имущества (приданое), которое он вносит в состав имущества нового двора.

Права на раздел двора не имеют кроме того его бывшие члены, порвавшие с ним связь, благодаря продолжительному отсутствию или получению с него выплат, а также несовершеннолетние—ни сами, ни в лице своих опекунов.

Если положение сирот в дворе, имеющем взрослых членов, станет слишком тяжелым, сельский совет должен назначить над ними опекунов, которые могут пред'явить иск к двору о содержании для сирот впредь до их совершеннолетия.

Новый совершеннолетний член двора может ходатайствовать о разделе хозяйства вне зависимости от срока пребывания в нем, так как с момента вступления в состав данного двора член этот утратил право на имущество в прежнем дворе. Однако, удовлетворение этого иска со стороны земельной комиссии допустимо лишь в случае действительной невозможности совместного жительства и целесообразности раздела, в результате которого должны получиться два самостоятельных жизненных хозяйства.

Раздел возможен двоякий: добровольный и судебный. В первом случае составляется сторонами раздельная запись и представляется в райисполком для регистрации. Последняя заключается в занесении в книгу сделок раздельной записи и в учинении на ней отметки.

До регистрации райисполком выясняет, получатся ли в результате раздела жизненные хозяйства, не допущены ли зачеты имуществом и выделы деньгами или продуктами за причитающуюся делящимся

землю, а также содержатся ли в раздельной записи установленные законом сведения. Признав раздел не законным, райисполком отказывает в регистрации его, о чем выдает сторонам справку. На отказ этот в двухнедельный срок может быть принесена жалоба в окружную земельную комиссию.

*(Окончание в следующем номере).*

**Е. Вишневский.**

---

# ВОПРОСЫ И ОТВЕТЫ

## (По делам земельным).

*Вопрос.* Теряют ли примаки при вступлении в состав нового двора право на пользование не только землею, но также и имуществом в составе прежнего двора? (Витебская окр. зем. комиссия.)

*Ответ 9.* Лица, переходящие из состава одного двора в другой, приобретают в новом дворе право на все имущество общего пользования, а в числе его и землю, и теряют это право в дворе, из которого они вышли, так как одновременно нельзя быть членом двух дворов.

*Вопрос.* Раздел двора, согласно 71 ст. Зем. Кодекса, заключается в распределении имущества не зависимо от возраста, по статье же 81 доли делящихся определяются по числу трудовых единиц, которые зависят от возраста. Как устранить это противоречие?

*Ответ 10.* Никакого противоречия между 71 и 81 ст. нет. Первая из них говорит, что каждый член двора имеет право на имущество, а вторая определят примерный размер этого права.

*Вопрос.* Если иск был пред'явлен о разделе всего хозяйства, но раздел земли не может быть произведен, то остальная часть иска о разделе имущества разрешается земельною комиссией или дело прекращается в виду подсудности его народному суду?

*Ответ 11.* Если иск был пред'явлен о разделе всего имущества общего пользования двора, а в том числе и земли, но раздел последней не мог быть произведен вследствие маломощности хозяйства, на разделе же остального имущества истец настаивает, дело в этой последней части разрешается в земельной комиссии, так как подсудность иска определяется моментом его пред'явления.

*Вопрос.* Нужно ли согласие земельного общества на прием во двор нового члена при общинном порядке землепользования?. (Полоцкое Окрзо).

*Ответ 12.* Общинного землепользования в БССР не существует. Согласия общества на прием во двор нового члена не требуется при участковом порядке землепользования.

*Вопрос.* В каком порядке рассматриваются окружной земельной комиссией жалобы сторон на отказ Райисполкома в регистрации раздельных записей.

*Ответ 13.* Означенные жалобы рассматриваются ОЗК с вызовом сторон в открытых судебных заседаниях по существу. Решения окрземкомиссии по этим делам могут быть обжалованы только в порядке надзора.

Пытаньне 14 гл. у паштовай скрынцы. *Рэд.*

---

# АГРОДАПАМОГА ВЁСЦЫ

## Трэба рыхтавацца да с.-г. выставак.

Па пляну працы агрономічнай організацыі вызначана правядзеньне с.-г. выставак у кожным раёне. Гэтыя выстаўкі, як і ў мінулым годзе, будуць праводзіцца ў дзень „Сьвята ўраджаю“. (14 кастрычніка), бо с.-г. выстаўка ёсьць, супраўды сьвята ўраджаю. Выстаўка—гэта люстэрка, у якім павінна адбівацца становішча сельскае гаспадаркі ў даным раёне. Адначасова на выстаўцы павінны выяўляцца і ўсе дасягненьні гаспадаркі за апошні час, напрыклад, лепшыя спосабы гаспадарваньня, якія дапамагаюць гаспадарцы ў яе далейшым разьвіцьці. Кожны новы прыём, новае дасягненьне павінны быць выразна падкрэсьлены на выстаўцы, каб зрабіць дасягненьне аднаго ці некалькіх гаспадароў і агрономаў уласнасьцю масы. Вось чаму да выстаўкі сялянам трэба сур'ёзна й сваячасна рыхтавацца.

Між тым у мінулым годзе здарылася, што мясцовыя працаўнікі й сялянства праведалі аб выстаўках толькі ў верасьні месяцы, калі ўжо амаль увесь ураджай быў сабраны з поля і часткаю абмалочаны. На выстаўку зьбіралі выпадковыя снапы збожжа, лубіну, травы, без усялякіх лічб і ведаў аб іх. Вядома, што на такой выстаўцы нельга было ўявіць сабе ўсе характарныя асаблівасьці раёну і вынікі сялянскае працы. Памылак мінулага году ня трэба паўтараць.

Трэба зараз-жа прыступіць да падрыхтоўкі экспонатаў. Агрономічныя працаўнікі раёнаў павінны абвясьціць насельніцтву, што і як трэба падрыхтоўваць да выстаўкі, якія лічбы і весткі павінны быць даданы да кожнага экспонату. Кожны экспонат выстаўкі павінен мець, так званы, пашпарт, дзе адзначана: 1) прозьвішча, імя і адрас гаспадара, 2) колькасьць зямлі ў гаспадарцы і форма землякарыстаньня, 3) які севазварот у гаспадарцы, 4) якую плошчу займае даная расьліна, 5) які сорт, 6) як выраблялася зямля пад гэту расьліну, 7) якое ўгнаеньне і калі паложана, 8) якая ўраджайнасьць з дзесяціны ў пудох, 9) з якога году разводзіцца ў гаспадарцы, 10) чым добры і якія недахваткі мае прадстаўленая расьліна па думцы гаспадара.

Пашпарт на кожны экспонат павінен быць падпісан гаспадаром, які адказвае за паказаныя лічбы. Каб даць пэўныя лічбы аб ураджайнасьці, трэба абавязкова зважыць ураджай хаця-бы на плошчы 30-40 кв. сажн. і потым пералічыць на ўраджай цэлай дзесяціны. Магчыма падлічыць ураджайнасьць па так званаму пробнаму снапу гэтак: у часе жніва выбіраюць сярэдні на выгляд вучастак у 60 кв. саж. і выжынаюць яго сярпом. Усе снапы застаюцца нявязанымі. З кожнага нязьвязанага снапа бярэцца жменя і складаецца ў адзін сноп (пробны). Па велічыні ён роўны з усімі. Снапы вучастку лічаць. Пробны сноп

сушаць, малоцяць і зярно важаць. Ураджай пробнага снапа, умножыўшы на лік усіх снапоў, атрымоўваюць ураджай з 60 кв. саж., а потым яго пералічваюць і на дзесяціну.

Гэты спосаб можа быць досыць точным, калі ўсё робіцца акуратна. Напрыклад, на дзялянцы ў 60 кв. сажн, было 100 снапоў. Ураджай пробнага снапа 400 грам; ураджай дзялянкі 400×100=40.000 грам. або 40 кілёгр. Ураджай дзесяціны 40×40=1600 кілёгр., або 100 пудоў.

Пры уборцы ўраджаю (будзь гэта збожжа, лён, лубін ці сеяныя травы) трэба браць і снапы для выстаўкі. Дзеля гэтае мэты выбіраецца сярэдняя па ўраджайнасьці мясьціна ў 1 кв. мэтр і на гэтым квадрату вырываецца ўся расьліннасьць з карэньнім і вяжацца ў снопік.

Гэты снопік асьцярожна захоўваецца да выстаўкі неабмалочаным і непапсутым. Бульбы выбіраецца некалькі сярэдніх кустоў з усёй дробнай і буйнай бульбай; корняплоды выбіраюцца сярэднія па велічыні.

Ураджай бульбы і корняплодаў адзначаецца або на пробным вучастку поля, або па ўраджаю сярэдняе градкі, ураджай якой важаць і потым пераводзяць на дзесяціну.

Вельмі каштоўнымі зьяўляюцца такія экспонаты збожжа, якія сабраны ў аднаго гаспадара, але па рознаму ўгнаеньню ці пасееныя, напрыклад, пасьля розных папараў. У такіх выпадках трэба браць па 1 снапу з угноенай і няўгноенай дзялянкі, каб паказаць розьніцу іх ураджаяў.

Асабліва трэба зьвярнуць увагу на падрыхтоўку экспонатаў канюшыны, лубіну, сэрадэлі, лёну, буракоў і інш. корняплодаў, сартовага збожжа і ўраджаю жыта пасьля розных папараў і мінэральнага ўгнаеньня.

**М. Лайкоў.**

---

# Парады агронома.

*Пытаньне 11.* Ці можна карыстацца зьявамі прыроды ў прадбачаньні пагоды ўлетку і якія з іх больш-менш правільны.

**Вясковы.**

*Адказ.* На доўгі час прадбачыць пагоды не магчыма, але на падставе пэўных зьяў магчыма адзначыць пагоду на 1-2 дні ўперад. Напрамак ветру ўлетку мае вялікае значэньне для прадбачаньня пагоды; у нас, на Беларусі пры заходнім ветры можна спадзявацца доўгай непагоды; калі вецер усходні і ўсходня-паўночны, то можна чакаць заўсёды добрай пагоды.

Калі ластаўкі лётаюць нізка, калі дым сьцелецца на зямлі, калі далёкія прадметы паказваюцца бліжэй, чым яны ёсьць, альбо, калі чуваць далёкія галасы або гукі, якіх у звычайны час ня чутно (звон, сьвіст паравіка, рыканьне скаціны, плач дзяцей) пры адначасным захмураньні неба, можна чакаць у кароткім часе дажджу. Калі ў дождж ластаўкі лётаюць высока, а неба праясняецца, можна спадзявацца, што распагодзіцца.

У добрую пагоду перамена напрамку ветру з усходняга на заходні альбо паўночны, пры адначасным зьяўленьні пярыстых хмар, паказвае, што пагода хутка сапсуецца.

Калі непагадзь зацягнулася, то добрай пагоды цяжка спадзявацца пакуль вецер заходні ці паўночна-заходні.

Калі ў дождж на сажалцы і лужынах выступаюць бурбалкі—будзе непагода. Калі ў часе дажджу пацяплее, можа быць яшчэ лівень, але скора распагодзіцца. Дождж, які пачне падаць перад усходам сонца, звычайна сьціхае перад поўднем. Доўгая непагода пачынаецца некалькіразовым хмараньнем і мглою; дождж у гэтым выпадку пачынае падаць а гадзіне 1-2 дня.

*Пытаньне 12.* Як найлепш направіць ток у гумне, каб ён быў моцны і роўны.

**Язэп Мірэцкі.**

*Адказ.* Калі Вы жадаеце стары ток у гумне аднавіць і зраўнаваць, то перш-на-перш трэба яго зусім ускапаць ломам; груду патаўчы, падвезьці сьвежай гліны, перамяшаць яе са старою і паліць вадой, каб уся гліна адсырэла. Пасьля трэба дадаць гнаёвай жыжкі і добра перамяшаць лапатай некалькі раз і ў канцы перамясіць нагамі, каб атрымалася аднастайная маса. Пасьля гэтага ўтаўчы ток даўбешкай з дошкі насаджанай на калок так, каб уся паверхня вышла зусім роўная і гладкая; убіваць трэба кожны дзень, пакуль ток зусім засохне і зацьвярдзее.

*Пытаньне 13.* У гэтым годзе ад пчол свае пасекі спадзяюся атрымаць каля 10 пуд. мёду, які • хацеў-бы перахаваць даўжэйшы час. Як гэта зрабіць?

**Піліп Маслоўскі.**

*Адказ.* Найлепш захоўваць мёд у паліванай пасудзе альбо эмалевай ці ацынкаванай з белай бляхі. Можна захоўваць і ў драўлянай, толькі перад тым, як наліваць мёд, яна павінна быць добра выпарана варам з содай і высушана. Цынковую пасуду ці бляшаную (крыху ржавую) дрэнна ўжываць, бо ў такой пасудзе мёд горкне.

Пасуду, налітую мёдам, адразу не зачыняць, а пакідаць на некалькі дзён у цёплым сухім месцы, прыкрыўшы рэдкім чыстым палатном. Пасьля 8 дзён на паверхні мёду зьбіраецца пена і кавалкі воску, якія трэба старанна сабраць і ўжо пасьля гэтага зачыніць пасудзіну шчыльным векам. Праз нейкі час мёд зацукруецца. Калі мы такі мёд паставім з пасудай у цёплую ваду (50 градусаў), то атрымаем зноў мёд рэдкі. Паставіўшы такі разагрэты мёд зноў у халодную ваду, мы яго згусьцім, але ён будзе доўгацякучы.

**У. Даведчык.**

---

# Балота—наша багацьце.

*(Да ўвагі сялян вёскі Маньчына).*

Я хочу пагутарыць з сялянамі вёсак Маньчына, Баравое Аблогі, Спаскай і інш. (Смаленскай губ. і павету), якія акружаны з усіх бакоў балотамі. Для адной толькі вёскі Маньчына плошча гэтага балота будзе дзесяцін у 500. Ці думалі калі-небудзь сяляне аб тым, як-бы з гэтых абшараў балота зрабіць добрую зямлю дзе-б расьлі палявыя расьліны і травы. Магчыма, што аб гэтым і думалі, але далей думак справа ня йшла.

Вёска Маньчына налічвае ў сябе да 100 хат. Кругом яна акружана балотам. На балоце растуць толькі кіслыя і атрутныя травы; скаціна, паеўшы іх, часта хварэе. Наогул, балота перашкаджае ўсяму дабрабыту сялян.

Для асушэньня балота патрэбна агульная згода сялян і рабочая сіла, а ўсё іншае, як кіраўніка-тэхніка, насеньне траў і розныя прылады сялянам дае дзяржава. Пасьля асушкі балота на кожны двор дастанецца каля 5 дзес. зямлі.

Трэба сказаць, што нашы сяляне ня першымі бяруцца за асушэньне балот. Напрыклад, у Голяндыі (Зах. Эўропа) людзі за нястачай зямлі адваявалі яе ў мора. Яны зрабілі грэблі і асушылі частку морскага дна і цяпер там у іх сенажаці. Уся паўночная Бэльгія даўней мела шмат балот. Цяпер-жа там усюды багатае поле і сенажаць, дзе пасуцца гурты малочных кароў і табуны коняй, дымяцца каміны фабрык і заводаў. Тое-ж самае можна сказаць і пра Нямеччыну. Там было асушана шмат балот і вазёр.

Былі і ў нас вагромністыя балоты ў Палесьсі; доўгі час і там ня было нагі чалавека. Але пачынаючы з 1873—1897 г. г. сіламі людзей шмат іх было асушана і тысячы дзесяцін балота абярнуліся ў культурныя землі.

У нашай Смаленскай губ. гэтак-жа ня мала балот (каля 400.000 дзес.) Калі на кожную гаспадарку ўзяць 10 дзес., то з нашых балот можна зрабіць 40.000 гаспадарак. Лічба вельмі вялікая.

У Смаленскай губ. ёсьць ужо каля 46 таварystваў па асушэньню балот. У Сычоўскім павеце на балоце ёсьць Дзержанскі вучастак, дзе расьце не асака, а густое збожжа.

Я раіў-бы сялянам в. Маньчына выбраць некалькі асоб і паслаць іх агледзець балотныя хутары, якіх у Смаленскай губ. ня мала, напрыклад, Пярхоўскія (каля ст. Гусіна) у 1200 дзес. Або пры ст. Прыдняпроўскай ёсьць саухоз „Папова“, у якім гадуюць для ўсяе губэрні лугавое насеньне.

Я добра ведаю, што хадакі, вярнуўшыся пасьля агляду хутароў, параяць сялянам, перад высяленьнем з вёскі на прысёлкі агульнымі сіламі асушыць балота.

Сялянам вёскі Маньчына для пачатку справы прыдзецца ад імя ўсіх грамадзян падаць у аддзел с.-г. мэліорацыі такую заяву:

„Мы, грамадзяне в. Маньчына Беларуцкае воласьці, Смаленскага павету, хочам асушыць 500 дзес. належачага да нас нізіннага балота, дзеля чаго просім прыслаць да нас тэхніка па асушэньню балота, патрэбныя для працы прылады-інструманты і насеньне лугавых траў. Яшчэ просім даць нам доўгатэрміновую пазычку ў колькасьці патрэбнай на асушэньне нашага балота. З сваяго боку мы даем сваю рабочую сілу і час“.

Так, грамадзяне вёскі Маньчына, бярэцеся за асушэньне балота і зрабіце яго крыніцай свайго багацьця. Вы атрымаеце і поле, і добрую сенажаць.

Для асушэньня балота трэба будзе зрабіць такую работу: паглыбіць і прачысьціць ад затораў раку Словаж і пракапаць канавы ў 2 мэтры глыбінёю ад „Лазаравага Перавозу“ да ракі Сьвіной—750 саж., ад „Дубовай грывы“ да „Пляшковага ляду“—250 сажн. і ўрэшце ад „Лядзечка“ да „Ігнатавага ляду“—750 сажн., а ўсяго 1750 сажн. З гэтага на адну гаспадарку прыходзіцца ўсяго 17½ сажн. Прыблізна ўсю работу можна скончыць за 4 дні.

Асушыўшы такім чынам балота, трэба высечы кусты, пазрэзваць куп'ё і паскладаць яго ў кучы, каб яно перагнівала.

За гэтым ужо пачнецца ворка балота плугам й высеў збожжа, а потым і траў. З пачатку сеюць заўсёды авёс й жыта. Пасьля ў жыта

падсяваюць (вясною ў год жніва жыта) мешанку лугавых траў. Ураджаі траў могуць даць пудоў каля 300 добрага сена з дзес.

Асушанае балота добра ўгнаяць мінэральнымі ўгнаеньнямі. У Ноўгарадзкай губ. балота было ўгноена 24 пудамі тамасшлаку і 18 пуд. калійнае солі на 1 дзес. ураджай сена з дзесяціны быў 290 пуд., а з няўгноенае 110 пуд. Як бачым, розьніца ў 180 пуд. прышлася на ўгнаеньне.

У нас добрым угнаеньнем для сенажацяй можа быць попел. Кожная гаспадарка ў год можа назьбіраць яго пудоў 20, якіх даволі на $1/3$ дзес. Зьбіраць-жа попел можна і ў горадзе. Кожны гарадзкі гаспадар за мяшок бульбы можа назьбіраць пудоў 40-50 попелу.

Так, грамадзяне вёскі Маньчына, бярэцеся за асушэньне балота і зрабіце яго крыніцай свайго багацьця. Вы атрымаеце і поле, і добрую сенажаць. **Г. Шасьцітка.**

# Догляд за лесам і для чаго ён патрэбен.

Лясны гаспадар ня можа бязуважна адносіцца да лесу; так ці йначай, а ён павінен спрыяць росту найбольш цэнных лясных парод.

Лес надта чулы да разумнага ўмешваньня ў яго жыцьцё і адказвае на гэта павялічэньнем прыросту. Дознана, што калі лес расьце ў кепскіх умовах, бяз догляду, то прыблізна толькі ў 120 год ён можа стаць добрым таварам (напр., сасна). Пры доглядзе-ж за лесам, той-жа велічыні і якасьці ён можа дасягнуць у 80 год. Такім чынам, догляд прыбліжае час галоўнай рубкі на цэлых 40 год. А гэта знача, што лясы, у якіх вядзецца правільны догляд, павялічваюць даходнасьць у паўтара разы.

Акром гэтага галоўнага даходу можна мець і значны даход ад матар'ялаў, атрыманых пры доглядзе за лесам, як колья, жэрдкі і іншы дравяны і падзельны матар'ял. У мясцох малалесных, дзе звычайнай лесасекі на здавальненьне патрэб мясцовага насельніцтва не хватае, драўніна мае асаблівае значэньне. Там догляд за лесам дапамагае здаволіць сялян лесам.

У доглядзе за лесам адрозьніваюць: *асьвятленьне, прачыстку, прарэджваньне, уборку перастою і папсутых дрэў і г. д.*

Асьвятленьне і прачыстка робяцца ў першы пэрыод жыцьця лесу—год да 15. Асьвятлюцца, галоўным чынам, цэнныя лясныя пароды, як дуб; пры гэтым абганяючыя ва ўзросьце менш цэнныя пароды падрэзваюць ці высякаюць, а галоўная парода пасьля гэтага мае доступ сонечнага сьвету—асьвятляецца. Пры прачыстцы густых маладнякоў высякаюцца малацэнныя пароды і горшыя дрэвы з галоўных парод.

Прарэджваньне робіцца ва ўзросьце 15-30 год. Высякаюцца адстаўшыя ў росьце ці заглушаныя дрэвы і часткаю густа стаячыя дрэвы, якія перашкаджаюць адно другому. Пры прарэджваньні трэба глядзець за тым, каб не зрабіць прагалін, якія ў гэтым веку лесу шкодны.

Уборка перастою робіцца ў тым выпадку, калі паасобныя дрэвы ўжо дасягнулі таварнай сьпеласьці і ня могуць дастаяць на каранёх да рубкі ўсяго вучастку бяз страты свае вартасьці.

Ва ўсіх выпадках догляду за лесам высякаюцца хворыя дрэвы, заражоныя паразітнымі грыбамі, папсутыя караедам і інш. у мэтах аздараўленьня застаўшыхся дрэў. Пры ўсялякім доглядзе за лесам павінна быць зроблена ачыстка парубачных рэштак.

**Лесавод Фэдарака.**

# КРАЯЗНАЎСТВА

## Дасягненьні селяніна-культурніка Пётры Бернгарда.

*(Полацкі раён і акруга, Баярскі с/с).*

Дзядзька Бернгард—па пахаджэньню латыш. У час яго маленства бацька Бернгарда купіў у Полаччыне вельмі танна кавалак зямлі (каля 50 дзес.), якая лічылася няўдобіцай (страшэнны падзол і балота). Суседзі-беларусы думалі, што загіне латыш. Але ўпартая працавітая сям'я Яна Бернгарда не апускала рук і працавала над выкарчоўваньнем кустоў, зборкай каменьняў, асушкай балота і г. д.

Непамерная праца зьвяла ў магілу бацьку Пётры і ён стаў маладым гаспадаром. Маючы цесную сувязь з суседзямі латышамі, пераймаючы ад іх лепшыя прыёмы гаспадараваньня, Пётра прадаўжаў распачатую барацьбу з прыродаю. Ён хутка разам з другімі суседзямі залічваецца сябрам земляробскага гуртка, які быў утвораны суседнім земляўласьнікам і сябрам Полацкага таварыства сельскае гаспадаркі. З дапамогай земства сябры гуртка запрасілі контроль-асыстэнта і заложылі малочны пункт.

Каб павялічыць удоі малака, гаспадаркі пачалі рабіць досьледы па кармленьню кароў. Гэтыя досьледы ўпэўнілі Бернгарда, што без корняплодаў, добрага сена й моцных кармоў нельга з карысьцю трымаць кароў. Пачаліся досьледы з пасевамі корняплодаў і сеянымі травамі ў полі. Пачалася яшчэ і больш рашучая барацьба з балотамі. Калі балота было асушана, на ім пачалі сеяць, як культурныя кармовыя травы, так і розную гародніну (капуста і корняплоды). Гародныя расьліны давалі надзвычайны ўраджай на болоце; ён некалькі раз перавышаў ураджаі гэтых расьлін на гародах. Асабліва добра расла капуста.

У 1913 годзе на асушаным балоце быў зроблен досьлед з мінэральнымі ўгнаеньнямі пад мешанку траў. Былі заняты 2 дзялянкі па 60 квадр. саж. і пераворааны; адну дзялянку ўгноіў мінэральным угнаеньнем (тамасшлаку 10 кілогр. (25 фун.) і калійнае солі 6 кілогр. (15 фун.); гэта знача, на 1 дзес. 25 п. тамасшлаку і 15 пуд. калійнае солі). Абедзьве дзялянкі былі засеены мешанкай траў. Ураджай сена з двух пакосаў быў такі: з няўгноенае дзялянкі—$1^1/_2$ пуды, а з угноенае—8 пуд. 30 фунт. (гл. мал.), што пры пералічэньні на 1 дзесяціну дасьць 60 і 350 пуд., або ў 6 раз больш пры ўгнаеньні.

Праз палявыя досьледы гаспадар упэўніўся, што бяз грунтоўнага паляпшэньня падзолаў і маклякоў нельга шырока ўводзіць у севазварот бульбу і корняплоды. Гэтыя расьліны разводзяцца толькі ў пры-

сялібных вучастках з прымяненьем мінэральнага ўгнаеньня. На палявойжа зямлі маецца 9-ці польны севазварот без асыпных культур, але з засевам траў і лёну. Севазварот гэтакі: 1—папар чысты ўгноены 1500 п. гною і 8 пуд. касьцяное мукі; 2—жыта і пшаніца з падсевам канюшны; 3 і 4—канюшына на скос; 5—лён і часткаю авёс; 6— авёс; 7—папар заняты, 8—жыта і 9—ярына.

Ураджайнасьць палявых расьлін у 1924 годзе: жыта пасьля ўгноенага папару сам 10, або 80 пуд. на дзес,; пшаніца азімая 100 пуд.; канюшына першага году карыстаньня 350 пуд. з аднаго ўкосу (пры другім укосу „пярмяк" дае каля 50 пуд.); на другі год карыстаньня адзін укос 250 пуд. Ураджай лёну-валакна 42 пуд. з 1 дзес. і семя 30 пуд.




Параўнаньне ўгноенай (350 п.) і няўгноенай (60 п.) дзялянак сенажаці.

Лён сеецца па канюшынішчу, якое арэцца вясной (пад авёс яго аруць з восені). Авёс пасьля лёну дае 75 пуд. з дзесяціны. Выкавая мешанка дае ў сярэднім каля 200 пуд. сена з дзес. Ураджай жыта пасьля занятога папару—65 пуд., ячменю—120 пуд. Сеялі ячмень пасьля жыта з занятога папару і клалі яшчэ 12 пуд. касьцяное мукі на 1 дзес.

Вельмі цікава па вынікам адно выпадковае назіраньне Бернгарда. Выкавая мешанка па няўпрацы была дасьпелена на насеньне. Сеяць жыта было ўжо позна, але, каб не парушыць севазвароту, гаспадар дабавіў 10 пуд. касьцяное мукі на 1 дзес. і жыта пасеяў. Ураджай быў зусім не чакань—80 пуд. з дзес. (як пасьля чыстага папару). Гэта зьявішча гаворыць нам, што і ў Полаччыне магчымы беспапарныя севазвароты пры засеву на полі перад жытам скорасьпелых расьлін і пры ўжываньні мінэральнага ўгнаеньня.

Ураджаі корняплодаў у прысялібным севазвароце пры ўгнаеньні (2400 пуд. гною і 20 пуд. касьцяное мукі) такія: кармовая морква—4800 пуд. з 1 дзес., бручка—3800 пуд., буракі—2000 пуд. Гэта—вагромністыя ўраджаі! Прычым, морква заўсёды дае вышэйшыя ўраджаі. Корняплодаў засяваецца шмат і іх хватае на ўсю зіму. Вясной я ба-

чыў, як у гаспадарцы Бернгарда кармілі кароў добра захаваўшаюся морквaю і буракамі.

Утрыманьне-жа жывёлы вельмі культурнае. Ёсьць цёплыя, сьветлыя і сухія хлявы, корм даецца ў кармушках у адзін час і прыблізна па нормах (дацкі спосаб). Цікавае разьмеркаваньне корму на працягу сутак—у 5 гадз. раніцы даецца малочным каровам добрае сена

„ 8 „ „ „ корняплоды й мука

„ 12 „ дня „ канюшына

„ 6-7 „ вечара „ корняплоды і

нанач яравая салома.

Пры такім разьмеркаваньні корм поўнасьцю зьядаецца.

У гаспадарцы ёсьць дойных кароў . . . 3 шт.

бык . . . . . . . . 1 „

целят-пераалёткаў . . 2 „

цёлка . . . . . . . 1 „

Удоі малака ў сакавіку 1924 году—1-я карова—21 фун. у дзень (6 месяц. пасьля цяленьня) і 28-29 фунт. па цяленьні. 2-я карова—24 фун. у дзень (2 мес. па цяленьні) 3-я дае каля 20 фунтаў.

Каровы запускаюцца на $1^1/_2$-2 месяцы. У сярэднім карова дае каля 20 фунт. ў дзень, або 150-160 пуд. у год.

З гэтых лічб можна ўпэўніцца, якую карысьць можна мець ад правільнай пабудовы палявой гаспадаркі і жывёлагадоўлі.

З другіх галін гаспадаркі трэба адзначыць культурны сад на плошчы $1^1/_4$ дзес., пасеку з 8 рамовых вульлёў сыстэмы Дадана, невялічкую пладовую школку каля 80 прышчэп.

З машын маюцца—жатка, касілка, конныя граблі, 4-х лямешнік, пружыноўка, 2 плугі Сака, корнярэзка, сячкарня, конная малатарня, арфа, поўнае абсталяваньне малачарні (сэпаратар, маслабойка, розныя прэсы, градусьнікі і г. д.).

Вельмі каштоўна, што, маючы столькі культурных адзнак у сваёй гаспадарцы, гаспадар не адмяжоўваецца ад сялянства, а зьяўляецца правадыром с.-г. культуры. Гаспадар зьяўляецца сябрам с.-г. таварыства „Культура“. У яго памяшканьні і пад яго аховай з 1922 г. знаходзіцца ачышчаючы насеньне і прокатны пункт таварыства з такіх машын: зьмейка, сартоўка Рэбера, канюшынны сяўнік, сяўнік „Планэт“, балотны плуг, лугавая барана, абсталяваньне масладзельнага заводу і бібліотэка.

На полі Бернгарда таварыствам заложана цагельня, якая здавальняе патрэбы мясцовага насельніцтва і бяре заказы для Полацку.

Бернгард—гэта сапраўдны культурнік і мо‘ вышэйшай катэгорыі, у якога можна шмат чаму навучыцца.

Агрономія павінна выкарыстаць вынікі гэтай гаспадаркі, яна павінна ўважліва прыглядацца і наогул да працы нашых землябаўлатышоў.

Вынікі ўпартай барацьбы Бернгарда з прыродаю—лепшы прыклад дзеля нашага працавітага сялянства.

**М. Лайкоў.**

---

# С.-Г. ХРОНІКА

## Выраб голяндзкага сыру Белсельтрэстам.

У Белсельтрэсту на працягу гэтага году працуе (у заўхозах) 24 сыраварні дзеля пераробкі свайго і сялянскага малака ў голяндзкі сыр. Як шырока разгорнена гэта справа відаць з табліцы.

| Кароў саўхозаў (штук) | Ад іх малака ў пудох | Малака сялянскіх кароў | Будзе выраблена сыру ў пудах |
|---|---|---|---|
| 1378 | 68.945 | 24.000 | 8.845 |

Ужо прыгатавана сыру да 3000 пуд. Сыр прадаецца сельска-гаспадарчым і спажывецкім коопэратывам па цане ад 14 руб. за пуд.

Салянам за малако плацілі:

у траўні і червені мес. па 80 кап. пуд
„ ліпені „ 95 „ „
„ жніўні і верасьні (будуць плаціць) па 1 р. 00 „ „

Белсельтрэст уклаў у гэту справу 30.000 руб. з мэтаю даць магчымасьць сялянам перш збываць сваё малако на месцы, а далей і аб'яднацца каля сыраварных заводаў у сыраварныя і малочныя арцелі і контрольныя саюзы, куды увойдуць сяляне пайшчыкамі, каб цікавіцца і прыбыткамі малочнай справы.

## Разьвіцьцё коняводзтва і конязаводзтва.

У Дзяржпляне СССР дзеля разьвіцьця коняводзтва і конязаводзтва Беларусі асыгнавана сума ў 1 мільён 192 тыс. руб.

540.000 руб. прызначаецца на куплю коняй маламоцнаму сялянству праз пазычкі ў с-г. банку.

442.000 руб. на куплю пародзістых жарабкоў і кабыл для конскіх заводаў і 210.000 руб. для розных мерапрыемстваў па паляпшэньню коняводзтва (выстаўкі, абсьледаваньні, прэміі за лепшых коняй, паказальнае кармленьне і г. д.)

## Фосфорытная мука.

У канцы чэрвеня Клімавіцкае аддзяленьне сельскладу выпісала са станцыі Сешча (Раслаўскага пав.) 12.000 фосфорытн. мукі. Ужо разышлося каля 10.000 пуд. Сяляне бяруць ахвотна па 30-40 пуд. (32 кап. пуд.)

Угнаеньне скарыстоўваецца пад жыта і высяваецца пад час мешані (дваеньне). На падзолах ураджай павялічаецца на 50-60% (пры 12 пуд. мукі на дзес.). Прыбаўка ўраджаю аўса бывае да 25%. Найбольш пашырана гэта ўгнаеньне ў Чэрыкаўскім, Краснапольскім, Касьцюковіцкім, Хоцімскім і Бялынкавіцкім раёнах.

# Аб агульна-беларускай агрономічнай конфэрэнцыі Саюзу Працзямлесу.

У канцы чэрвеня г. г. Саюзам Працзямлесу была склікана першая агульна-беларуская агрономічная конфэрэнцыя.

Трэба адзначыць, што да гэтага часу спэцыялістыя сельскай гаспадаркі, будучы заняты сваёй службовай працай, мала цікавіліся профэсыянальнай працай. Дзеля гэтага першай і самай важнай задачай сэкцыі было аб'яднаньне ўсіх спэцыялістых вакол сэкцыі пад агульным кіраўніцтвам Саюзу Працзямлесу для выяўленьня і абароны профэсыянальных, матар'яльных і правовых інтарэсаў членаў сэкцыі. Адначасна патрэбна было, каб самі спэцыялістыя адчувалі сябе, як частка рабоча-сялянскай грамадзкасьці, маглі йсьці ўперад і ажыцьцяўляць прынцыпы і мэтоды рабоча-сялянскага будаўніцтва.

Конфэрэнцыя выявіла, што агрономы ўжо зварухнуліся: сэкцыі пабудованы ва ўсіх акругах, пачалі весьці культурна-асьветную працу як сярод сябе, так і сярод членаў саюзу і сялянства, але адначасна адзначана, што праца гэта праходзіць у вельмі цяжкіх умовах.

Перш-на-перш слабасьць мясцовага бюджэту не дазваляе абставіць працу агронома, як гэта патрэбна: агропункты не абстаўлены, гэта ў большасьці запушчаныя быўшыя панскія сялібы, дамы. Сродкамі переезду забясьпечаны агрономы слаба—стары конь і калёсы, а запражку трэба мець сваю. Ёсьць агровучасткі без каня і кватэры для агронома.

У раёнах, дзе праводзіцца земляўпарадкаваньне, агроном вельмі перагружаны працаю на пасёлках і не пасьпявае ў гэтай працы за каморнікамі, а таксама ня мае магчымасьці здаволіць і ўсё іншае сялянства.

Узаемаадносіны мясцовых установ і організацый не заўсёды зьяўляюцца такімі, якімі яны павінны быць. Месцы ня зусім правільна ацэньваюць ролю агронома, а лічаць яго прадстаўніком ці агэнтам зямельных установ у працы розных комісій. Ня гледзячы на тое, што праца агронома павінна быць пляновай, РСК даюць часта заданьні, якія ня маюць адносін да яго працы. Здавалася-б, што агронома павінны цаніць і ва ўсім яму дапамагаць, але не заўсёды так бывае. Часта агронома без разбору справы перакідваюць у другое месца (гэта яшчэ добра), а то і зусім звальняюць ад працы.

І яшчэ адно важнае пытаньне, якое было падкрэсьлена на конфэрэнцыі—гэта патрэба перападрыхтоўкі агронома.

Агрономы раскіданы на вялікіх абшарах Беларусі, ня маючы адпаведнай літаратуры й сродкаў на набыцьцё яе і, будучы адначасна перагружаны працай, адстаюць ад жыцьця ў тэхнічным і політычна-профэсыянальным кірунках. Усё гэта падкрэсьлілі агрономы-настаўнікі, дасьледчыкі і адміністратары. Нізкая аплата працы, перагружанасьць, недастача літаратуры, інструмантаў і прылад не дазваляюць паставіць працу так, як яна павінна быць.

У резолюцыях конфэрэнцыя адзначыла шляхі далейшай працы агросэкцыі па ліквідаваньню ўсіх дэфэктаў.

У канцы трэба адзначыць, што настрой у агрономаў удзельнікаў конфэрэнцыі, быў бадзёры; агрономы разьехаліся на месцы ўпэўненымі, што організацыя сэкцыі ў Саюзе Працзямлесу пры дапамозе комуністычнай портыі дазволіць хутка ліквідаваць усе недалікі іх працы і агрономы, ідучы заадно з усімі організацыямі пролетарыяту, дапамогуць дзяржаве ў адбудове сельскай гаспадаркі. **У. Даведчык.**

# ОФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

Зацьвярджаецца. 27/V 25 г. Нам.
Старшыні Саўнаркому С. Гэльтман.

## Палажэньне аб мэліорацыйных таварыствах.

1. Мэліорацыйныя таварыствы організуюцца працоўнымі землякарыстацелямі і організацыямі, пералічанымі ў арт. 3 гэтага палажэньня, з мэтай грунтоўнага паляпшэньня зямельнае плошчы і ўдобіць шляхам сумеснага спаўненьня працы па асушцы, арашэньню, абвадненьню і падтрыманьню ў парадку мэліорацыйных пабудаваньняў і сыстэм; для спаўненьня культурна-тэхнічнай працы, а гэтак-жа працы па расчыстцы, раскарчоўцы лесу і кустарнікаў; пасадцы, абараняючых і накопліваючых вільгаць насаджэньняў; рэгуляваньню вадаспадаў, умацаваньню рачных берагоў, пяскоў й інш., а гэтак-жа для наступнага гаспадарчага скарыстаньня мэліорацыйных плошч і ўдобіц.

2. Заявы аб закладаньні мэліорацыйных таварыстваў разам з іх статутамі накіроўваюцца ў Наркамзем БССР, які ўстанаўляе: 1) патрэбнасьць і гаспадарчую мэтазгоднасьць мэліорацыі; 2) яе тэхнічную выпаўнімасьць і 3) велічыню плошчы, падлягаючай мэліорацыі і граніцы яе. Пасьля гэтага статуты таварыства зацьвярджаюцца і рэгіструюцца Наркамземам, як с-г. коопэрацыйнае аб'яднаньне.

3. Сябрамі мэліорацыйных таварыстваў могуць быць, як паасобныя двары і асобы, гэтак і с-г. аб'яднаньні, колхозы, саўхозы, коопэрацыйныя організацыі і іншыя юрыдычныя адзінкі, землі якіх уваходзяць у склад плошч, падлягаючых мэліорацыі. Лік галасоў, якім карыстаецца кожны сябра таварыства, вызначаецца агульным сходам.

*Увага:* Калі правядзеньне мэліорацыі вымагае ўваходу ў сябры таварыства лясьніцтва—апошняе ўваходзіць у сябры таварыства з асобнага дазволу Наркамзему ў кожным выпадку.

4. Калі мэліорацыя на данай плошчы ня можа быць выканана па тэхнічных варунках ці мэліорацыйныя пабудаваньні ня могуць быць скарыстаны, не чапляючы адначасна вучасткаў іншых землякарыстацеляў, тады заява паловы землякарыстацеляў, зямля якіх падлягае мэліорацыі, аб жаданьні залажыць мэліорацыйнае таварыства абавязвае і рэшту землякарыстацеляў увайсьці ў таварыства. У такіх выпадках яны атрымоўваюць правы і абавязкі роўныя з усімі сябрамі таварыства. Усе спрэчкі па гэтых пытаньнях вырашаюцца ў парадку арт. 199 і 200 Зямельнага Кодэксу.

5. Састаўленьне проэктаў і плянаў мэліорацыйнае працы і абсьледаваньня на плошчах мэліорацыйных таварыстваў спаўняецца акруговым зямельным аддзелам. Гэтыя проэкты і пляны падаюцца на разгляд і зацьверджаньне Наркамзему. Апошні назірае праз АКРЗА і за тэхнічным спаўненьнем мэліорацыі.

6. Мэліярацыйныя таварыствы спаўняюць працу на зямлі сваіх членаў і могуць атрымоўваць у парадку земляўпарадкаваньня на правах зямельнага вобчаства дадатковы адвод з асобнае плошчы няўдобных кінутых зямель дзяржаўнага фонду.

*Увага*: Праца па адводу зямлі мэліярацыйным таварыствам спаўняецца ў першую чаргу парад іншымі ўстановамі і асобамі, калі гэта ня шкодзіць інтарэсам дзяржавы.

7. Мэліярацыйныя таварыствы маюць перавагу перад іншымі організацыямі на атрыманьне пазычак на мэліярацыю з сродкаў, якія выдаюцца Наркамземам на с.-г. крэдыт.

*Увага:* Выдача пазычак робіцца па асобных правілах.

8. Расклад плацяжу на пагашэньне выдаткаў таварыства паміж яго сябрамі спаўняецца адпаведна атрыманай кожным з іх выгады ад мэліярацыі. У выпадку неадпаведнасьці паасобных сяброў т-ва, належачыя з іх на карысьць т-ва плацяжы спаганяюцца ў першую чаргу пасьля плацяжоў, пералічаных у арт. 101 Грам. Кодэксу.

9. Сябром т-ва надаецца права працоўных землякарыстацеляў пры скарыстаньні мэліярацыйных і гаспадарчых вучасткаў.

У выпадку пераходу мэліярацыйных плошч пры земляўпарадкаваньні да другіх асоб, члены т-ва атрымоўваюць кошт выдаткаў на мэліярацыю ад гэтых асоб (згодна арт. 22 і 116 Зямельн. Кодэксу).

10 Калі пабудаваньнямі таварыства наносіцца шкода сябрам т-ва ці асобам, у яго не ўваходзячым, то яны могуць спаганяць страты ў парадку разгляду зямельных спрэчак (арт. 194, 199 і 200 Зям. Код.).

11. Мэліярацыйныя таварыствы для аб'яднаньня свае працы і лепшага вырашэньня пытаньняў снабжэньня, тэхнічных і вытворчасьці, маюць права ўступаць у організацыі с.-г. вытворчай коопэрацыі.

12. Для найбольш поўнага і карыснага гаспадарчага скарыстаньня мэліярацыйных вучасткаў, т-вы маюць права закладаць усялякія падсобныя прадпрыемствы с.-г. характару.

13. Т-ва лічыцца спыніўшым сваё існаваньне: 1) Калі на працягу году ад дня рэгістрацыі статуту яно не прыступіла да выпаўненьня мэліярацыйнае працы бяз прычыны; 2) па пастанове агульнага сходу аб ліквідаваньні т-ва.

У першым і другім выпадку т-ва не звальняецца ад пагашэньня ўсіх узятых на сябе забавязаньняў, як да дзяржаўных органаў, так і да прыватных асоб. У першым выпадку зямельныя вучасткі, адведзеныя дадаткова звыш нормы зямельнага надзяленьня, паступаюць у агульнадзяржаўны фонд; у другім выпадку: а) калі праца па мэліярацыі вучастку закончана, распрацованыя плошчы застаюцца цалкам у карыстаньні сяброў ліквідуемага т-ва ў парадку працоўнага землякарыстаньня і б) калі споўнена толькі частка мэліярацыйнае працы, то пытаньне аб далейшым скарыстаньні вучасткаў вырашаецца Акруговай Зямельнай Комісіяй.

14. Народны Камісарыят Земляробства мае права выдаваць правілы і інструкцыі па дапасаваньню гэтага палажэньня.

**Выданьне Наркамзема.** Адк. рэд. Зьм. **Прышчэпаў.**

Рэд. кол. { *Э. Русецкі.* *А. Смоліч.* *Сьц. Тупяневіч.*